PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 28 (2096) Год XLI Беласток 14 ліпеня 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)



*Як Люба Томчык трапіла ў „Лявоніху" чытайце на стар. 9.*

Ганна Кандрацюк

## Тут золата на зямлі ляжыць

Белавежскую пушчу прызналі ў свеце. Гэта яе назвалі зялёнымі лёгкімі Еўропы. Сюды цягнуць з усяго свету паклоннікі экалогіі, прыродазнаўчых навук, пантэізму. У Дубіцкай гміне рашылі таксама пакарыстацца натуральнымі каштоўнасцямі. З гэтага года рушыць тут асяродак для хворых дзяцей у Старыне. Ужо ў канцы лета прыедуць сюды юныя пацыенты, ахвяры хімічнага забруджання, алергікі, дзеці з парушаным стрававальным апаратам, з разбураным імуналагічным саставам.

### Недаацэненая Старына

У Старыну папала я ў парны, ліпеньскі дзень. Якраз прайшоў цёплы дождж, у паветры павіс араматны букет пушчы. Пах сасны, зямлі і лясного зелля наводзіў настрой лёгкасці і спакою. Хацелася сесці і застыць на некалькі гадзін у гэтай раскошы. Недарма ад вякоў цягнулі ў пушчу нашы продкі-язычнікі, шукаючы сілы, надзеі, здароўя. Тут будавалі капішчы, тут ачышчаліся ад пакутніцкіх думак, тут адраджалі жыццёвыя сокі. Яшчэ і сёння ў прыпушчанскіх вёсках сустрэнеце аўтарытэтных знахарак, якія ў сваіх замовах-малітвах выклікаюць стыхіі і таемнасць пушчы. Паэтычна названая вёска Старына заварожвае наведвальнікаў. Тут сустрэнеце драўляныя музейныя сядзібы, сапраўдных аўтахтонаў, мілагучны дыялект, сардэчны і гасцінны прыём жыхароў. Дадатковым атракцыёнам ёсць магчымасць наведання жалезнага кардону. Старына распалажана дзвесце метраў ад мяжы з лукашэнкаўскай Беларуссю. У апусцелай школе-„тысячагодцы", дзе будзе лячэбны асяродак, ідзе рамонт. **Віктар Лемеш**, новы гаспадар будынка, разумее патрабаванні сённяшняга кліента.

— Многае трэба памяняць, давесці да парадку, — гаворыць пра вялікія інвестыцыі. Неўзабаве прасторныя школьныя залы заменяцца ў камфартабельныя пакойчыкі, з цудоўным пушчанскім пейзажам за вакном. Віктар Лемеш разлічвае не толькі на пацыентаў з Польшчы, Беларусі, Украіны, але і з Нямеччыны, Бельгіі, Францыі. Пра Старыну клапоцяцца ўлады гміны. **Сяргей Нічыпарук**, старшыня Гміннай рады, паказвае мне гатовы ўжо спартыўна-адпачынковы комплекс. Побач будынка школы вялізная спартыўная пляцоўка, адкрыты басейн, месца на вогнішча.

— Думаем і пра сапраўдную лазню, — гаворыць з энтузіязмам Нічыпарук. Гадзінамі патрапіць ён гаварыць пра экалагічную гаспадарку, пра агратурызм, пра феномен доктара Яўгена Шмярко з Мінска, пра арыгінальнасць і неацэненыя асаблівасці сваёй малой айчыны. Гэта ён пераканаў Віктара Лемеша, уласніка сеткі магазінаў, інвеставаць у Старыне. Рэдка сустрэнеш на Беласточчыне такіх людзей, як Нічыпарук. І не наракае, і хоча нешта зрабіць яшчэ новага! Факт, што ў Дубіцкай гміне пачалі гаварыць пра аграбізнес, усё ж экзатычную тут дзялянку, заслугоўвае ўвагі.

— Ды і няма для нас іншай дарогі, — гаворыць войт **Анатоль Паўлоўскі**. — Большасць жыхароў прыпушчанскіх вёсак дажывае сваіх дзён. Сярэдняя ўзросту ў гміне — пяцьдзесят гадоў.

У пакінутыя вёскі паціху прадзіраецца пушча. Міграцыя вяскоўцаў у навакольныя гарады — Гайнаўку, Бельск, Беласток — пачалася тут ужо пасля вайны. Людзі ўцякалі ад ліхой зямелькі V і VI класаў, ад пушчы і забабонаў, ад халопства.

— Цяпер няма ўжо каму ўцякаць, — гаворыць А. Паўлоўскі. Як доказ прыводзіць жахлівую статыстыку. У гміне Дубічы-Царкоўныя на працягу года родзіцца ўсяго дзесяць дзяцей і дзесяць разоў столькі чалавек памірае.

Вёскі з трыма пакаленнямі, як Ягаднікі, Стары Корнін — ацалелі, дзякуючы ўраджайнасці зямлі і вынаходлівасці тутэйшых людзей. Вёскі на неўраджайных гонях як Грабавец, Рудка, Чэхі-Арлянскія не адставалі ў вынаходлівасці. У 70-х гадах квітнела там народная вытворчасць саламянага посуду, карабоў, дэкаратыўных прадметаў, якімі па ўсёй краіне гандлявала „Цэпэлія". Сёння, калі няма купца на вырабы з саломы, пусцеюць стройныя мураванкі і забудаваныя сядзібы прадпрымальных гаспадароў.

— Аграбізнес пераканае тых, што яшчэ асталіся, што можна жыць не толькі з зямлі, — разважаюць у гміне.

### Феномен доктара Шмярко

Доктар Яўген Шмярко з Мінска — самы вялікі аўтарытэт у Дубіцкай гміне. Яго прыездам спадарожнічаюць натоўпы паклоннікаў фітатэрапіі. Яго пацыентам з'яўляецца вярхушка Дубіцкай гміны — войт, старшыня рады, былы настаяцель прыхода. Айцец Віталій

*(працяг на стар. 3)*

Мікола Ваўранюк

## Менск: пачатак канікулаў

Краіна ідыётаў і вечна зялёных памідораў — так непатрыятычна пра сваю бацькаўшчыну выказаўся адзін мой менскі сябра. Мне — грамадзяніну суседняй краіны — пра першае меркаваць не гожа, дык пра агародніну. У канцы чэрвеня ў Менску чырвоныя памідоры былі, імпартныя, з Галандыі або Польшчы, больш-менш па два долары за кілаграм. Гэта значыць, удвая даражэй за бананы. Цана маладой бульбы крыху раней даходзіла амаль да трох долараў. Беларусам нічога іншага не заставалася, як перакінуцца на нацыянальную ежу лацінаамерыканскіх рэспублік.

А вось напітку мяняць не даводзіцца. Паўлітра айчыннай гарэлкі каштавала 27-28 тысяч рублёў (няцэлыя два долары), а двухлітровая фанта для запойкі — 24-25 тысяч, паўтаралітровая мінералка — 15 тысяч. Але ж запіваць, як вядома, не абавязкова.

У пачатку лета сталіца Беларусі рыхтуецца да пераезду на вёску або дачу. Людзі наспех канчаюць запланаваную працу, дацягваюць да канца абавязкі і гайда з распараных мураў і гарачага асфальту. Праўда, чэрвень у Менску сёлета такі ж, як у нас, пахмурны і дажджлівы. Усё роўна, адчуваецца, што пара з'язджаць з горада. Асабліва востра гэтую патрэбу адчулі журналісты пасля таго, як невядомыя замаскаваныя тыпы ўварваліся ў кватэру карэспандэнта рускай службы Радыё „Свабода" Юрыя Дракахруста. Нічога з памяшкання не прапала, а паколькі сам журналіст быў якраз у Брусэлі, асобені збілі яго жонку з просьбай расказаць пра ўсё падрабязна мужу. Некалькі дзён пазней усе незалежныя менскія газеты надрукавалі пратэст, пад якім падпісаліся дзесяткі журналістаў і выдаўцоў, але сёй-той пачаў выпраўляць сям'ю з Менска раней запланаванага.

Заспяшаліся перад канікуламі і парламентарыі. Знайшлі нарэшце час і жаданне, каб зацвердзіць новыя лукашэнкаўскія дзяржаўныя сімвалы. Аказваецца, больш года выстаўляліся яны на паказ не зусім законна. Але, хто б там у Беларусі ўсур'ёз успрымаў законы. Днямі, напрыклад Вярхоўны Савет двума трэцімі галасоў пацвердзіў вяршынства рашэнняў Канстытуцыйнага суда над некаторымі прэзідэнцкімі ўказамі. І што? Нешта не відаць, каб хоць частка іх страціла сваю законную моц.

Нарэшце, насуперак заяўламу супраціву камуністаў, прыняты быў закон аб праве на куплю зямлі, таксама для замежнікаў. Гэты, здавалася б, фундаментальны для развіцця рыначнай эканомікі закон, неяк не выклікаў хвалі энтузіязму. Можа няма дзеля гэтага цяпер галавы. Ідуць жа канікулы...

Тым часам можна навесці парадак у галіне асветы. Як паведаміла газета „Свабода", на заслаўскую фабрыку, якая выпускае кардонную ўпакоўку, паступіла вялікая партыя новых падручнікаў 1992-1995 гадоў. Тут „Гісторыя Беларусі для 8-9 класаў", „Беларуская мова для 3 класа", „Буквар"

*(працяг на стар. 4)*

# Мы прачыталі

*Prezydent Aleksander Kwaśniewski, niezawodny i sprawdzony przyjaciel swych wyborców, podpisał niedawno ustawę dotyczącą opłacania znakomitych przedstawicieli ludu pracującego miast i wsi. Od następnej kadencji posłowie otrzymywać będą każdego miesiąca uposażenie przekraczające 10 tys. zł. czyli 100 mln starych złotych.*

*Wprost, nr 26*

У найбліжэйшых выбарах чакаецца страшэнны натоўп кандыдатаў на нардэпаў. Будзе весела.

* * *

*Многие белорусские реформаторы, выступая с „высоких" и не очень трибун, со страниц газет и журналов, считают своим долгом „попинать" руководство республики за слабые темпы приватизации. Как положительный пример по рождению класса собственников, частенько ссылаются на опыт стран Центральной и Восточной Европы. Но так ли это? Надеемся, что мнение руководителя известной Польской национальной партии Болеслава* ***Тейковского*** *прольет свет на то, кто же стал и становится настоящим хозяином польской промышленности,* — піша ва ўступе да інтэрв'ю з лідэрам польскіх фашыстаў прэзідэнцкая

*Народная газета, н-р 158*

Вядома, што паводле Тэйкоўскага, польская прыватызаваная маёмасць трапляе ў яўрэйскія рукі, аднак успрыманне лукашэнкаўцамі гэтага асобеня як аўтарытэтнага палітыка красамоўна паказвае напрамкі прэзідэнцкай палітыкі.

* * *

*Według wiceszefa administracji prezydenta Białorusi Władimira Zamiatalina, źle piszą o Łukaszence opłacani dolarami przez zachodnie służby specjalne skompromitowani niezależni dziennikarze.*

*Gazeta Wyborcza, nr 114*

Гэтую сумную праўду адкрыў ужо даўно адзін з нашых знакамітых дзеячаў. Калі ўжо была рассакрэчана і наша таямніца, прызнаемся, што чамаданы з доларамі не змяшчаюцца ўжо ў нашых шафах.

* * *

*Radny „Jedności" Józef Zalewski opowiadał podczas sesji tego zgromadzenia o perypetiach związanych z pogryzieniem jego suki przez jakiegoś psa i uznał to za ważny problem miasta Białegostoku.*

*Kurier Poranny, nr 147*

Гэта безумоўна важная праблема нашага горада.

* * *

*Pies, który pogryzł radnego Zalewskiego został schwytany,* — інфармуе

*Gazeta w Białymstoku, nr 146*

* * *

*Powołuje się do ekipy piłkarzy z zagranicy i nazywa się ich drużyną francuską. Piłkarze innych krajów śpiewają hymn narodowy całym sercem. Wielu reprezentantów Francji nie wie nawet, jakiego utworu słucha* — stwierdził lider francuskich nacjonalistów — Jean Marie Le Pen.

*Gazeta Wyborcza, nr 146*

* * *

*Na Filii Uniwersytetu Warszawskiego w Białymstoku najmniej osób zdaje na białorutenistykę.*

*Gazeta w Białymstoku, nr 147*

Дзякуючы прэсе шмат людзей даведалася, што ў Беластоку ёсць факультэт беларускай мовы. Але не ўсе ў гэта паверылі.

* * *

*Tegoroczny maj okazał się niezwykle udany dla tych, co łapią. W Ameryce po 17 latach złapano terrorystę Unabombera, władze Białorusi zdołały pochwycić Mariana Krzaklewskiego, a w amerykańskiej bazie wojskowej w Ramstein przyłapano na kradzieży damskich perfum polskiego pułkownika.*

*Polityka, nr 24*

З гэтай інфармацыі відаць, што геі ў амерыканскай арміі маюць нават крамы з жаночымі духамі.

* * *

*Na ulicy Świętojańskiej w Białymstoku ksiądz kapelan najechał swoim polonezem na malucha, którym kierowała osiemnastoletnia dziewczyna. Ksiądz-kapitan najpierw powiedział kim jest, a potem zaczął krzyczeć na poszkodowaną, po czym wsiadł i odjechał na ważne zebranie.*

*Kurier Poranny, nr 148*

I kto tu rządzi?!

* * *

*Okazaliśmy się dobrymi Europejczykami* — інфармуе штомесячнік

*Aktualności Telewizyjne, nr 4*

* * *

*Mam 21 lat, jestem wysokim, przystojnym i wysportowanym mężczyzną. Chciałbym poznać kulturalną panią, która skończyła przynajmniej 40 lat.*

*Kurier Poranny, nr 149*

Даволі асаблівыя патрабаванні.

* * *

*Moją pierwszą fascynacją była zamężna ciotka — opowiada Adam Hanuszkiewicz. Miałem 15 lat, ona 23. Przyłapano nas na igraszkach. Ale odbyło się bez skandalu, ze względu na mój młody wiek.*

*Wprost, nr 26*

# З мінулага тыдня

**Таварыства цыганоў у Польшчы** выказала рашучы пратэст супраць выказвання старшыні Руху адбудовы Польшчы **Яна Альшэўскага**, які, гаворачы аб праекце новай канстытуцыі, сцвердзіў, што ў яе кантэксце ў найлепшай сітуацыі апынуўся б „Cygan, przyznający się do narodowości niemieckiej, rosyjskiej, angielskiej, poniżej 16 lat, bo to zapewnia — według tej konstytucji — szczególny status dziecka, wiąże się z dodatkowymi uprawnieniami; upośledzony fizycznie albo umysłowo, o orientacji seksualnej innej niż ta najbardziej powszechna". Таварыства гэтыя словы палічыла праявай крайняй ксенафобіі і шавінізму ды супрацьўляецца ганьбаванню цыганамі, якія з XV стагоддзя жывуць на польскіх землях.

**У польскіх школах у Літве** гісторыя і геаграфія будуць выкладацца на польскай мове — вырашыў літоўскі парламент. Дэпутаты парламента адкінулі праект закона, паводле якога ў школах нацыянальных меншасцей гэтыя два прадметы павінны выкладацца на літоўскай мове. Супраць гэтага праекта неадночы пратэставалі дзеячы польскіх арганізацый у Літве, даказваючы, што супярэчыць ён польска-літоўскаму трактату.

**Згуртаванне войтаў, бурмістраў і прэзідэнтаў Беластоцкага ваяводства** заявіла, што прызначаных урадам грошай не хопіць на ўтрыманне школ у гмінах і ў сувязі з гэтым патрабуюць яны правесці карэктуру „школьнай" субвенцыі. Прадстаўнікі гмін сцвярджаюць, што выдзеленых з дзяржаўнага бюджэту грошай не хопіць не толькі на рамонты ці інвестыцыі, але нават на зарплаты настаўнікам і школьнаму персаналу.

**Анна Байко** рашэннем Гмінңай рады адклікана з пасады войта гміны Белавежа. За адкліканне выказаліся 11 радных, супраць — 3. Старшыня Гміннай рады **Уладзімір Валкавыцкі** паінфармаваў, што прычынай адстаўкі была нетэрміновая выплата крэдыту з Ваяводскага фонду ахоы асяроддзя і скрыванне гэтага факта перад радай. Анна Байко выказала рашучую нязгоду наконт пастаўленых ёй закідаў і сцвердзіла, што ніякай задоўжанасці ў выплаце пазыкі гміна не мае, а факт яе адклікання пракаментавала наступным чынам: „Гэта бескампраміснае змаганне за крэслы. Такім чынам пазбаўляюцца ад нявыгадных людзей. Мы дабіліся дэмакратыі, але ў руках некаторых асоб становіцца яна небяспечнай гульнёй".

**У Белавежы** адбыліся II курсы для журналістаў лакальнай прэсы Беластоцкага ваяводства. Галоўная мэта курсаў — павышэнне журналіскіх ведаў, між іншым у галіне маркетынгу, прэсавага права, спосабаў збірання інфармацыі. Журналісты вучыліся таксама карыстацца камп'ютэрнай тэхнікай. У Беластоцкім ваяводстве выходзіць рэгулярна амаль 30 гмінных газет.

**Крэйдавы завод у Мельніку** рыхтуецца да аднаўлення вытворчасці. Новы ўласнік — суполка ОМП з Яленяй Гуры — плануе мадэрнізацыю машыннага парка прадпрыемства, у якім знойдзе занятак большасць колішняга калектыву завода.

**Грамадзянін Беларусі** быў застрэлены паліцыянтам падчас дарожнага кантролю. Каля Замбрава паліцыя затрымала аўтамашыну, якая перасягнула дазволеную скорасць. У машыне ехалі турысты з-за ўсходняй мяжы. Падчас кантролю ўсчаліся спрэчкі паміж пасажырамі і паліцыянтамі. Паводле неафіцыйнай інфармацыі, у чужаземцаў была зброя, якой яны хацелі пакарыстацца. Тады адзін з паліцыянтаў стрэліў у найбольш агрэсіўнага — 34-гадовага беларуса. Астатнія пасажыры і шафёр былі затрыманы.

# Весткі з Беларусі

**Дадатковыя выбары**

Вярхоўны Савет прыняў пастанову аб правядзенні дадатковых паўторных выбараў дэпутатаў ВС і мясцовых саветаў. Цэнтральнай выбарчай камісіі даручана правесці паўторныя выбары не пазней канца лістапада 1996 г. Тэрытарыяльным выбарчым камісіям рэкамендавана арганізаваць правядзенне выбараў дэпутатаў мясцовых саветаў адначасова з давыбарамі ў Вярхоўны Савет.

**Следства прадаўжаецца**

26 чэрвеня скончыліся два месяцы, адведзеныя на следства па справе падзей 26 красавіка ў Менску. Аднак у сувязі з неабходнасцю выканаць шэраг следчых дзеянняў з удзелам дэпутатаў Вярхоўнага Савета, якія былі ўдзельнікамі „Чарнобыльскага шляху", вырашана прадоўжыць тэрмін следства яшчэ на месяц. Справа ў тым, што народныя абраннікі проста не рэагуюць на ўсе спробы работнікаў пракуратуры выклікаць іх на правядзенне следчых дзеянняў. У той жа час Гарадскі суд Менска вынес пастанову ў справе ўдзелу Лявона Баршчэўскага ў „Чарнобыльскім шляху". Яму інкрымініравалася арганізацыя беспарадкаў і кіраванне калонай дэманстрантаў. Дзякуючы намаганням адваката, абвінавачанні зняты. Праўда, у выніку атрымалася, што Лявон Баршчэўскі без падставы правёў чацвёра сутак за кратамі.

**Чарговая забастоўка**

26 чэрвеня адбылася стыхійная забастоўка ў Менскім вытворчым аб'яднанні „Белвар" — адным з буйнейшых аб'яднанняў радыёэлектроннай прамысловасці. Падставай для хваляванняў рабочых паслужыла затрымка выдачы заробатнай платы за красавік—май. Не знайшоўшы паразумення з адміністрацыяй прадпрыемства, дэлегацыя з прадстаўнікоў працоўнага калектыву, прафсаюзаў і кіраўніцтва аб'яднання раніцай адправілася на перамовы з урадам. Генеральнага дырэктара завода „Белвар" прыняў прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір. Было дасягнута пагадненне, па якому прадпрыемству быў выдзелены крэдыт у 3,6 млрд. рублёў.

**Беларускія афіцэры**

Першы выпуск афіцэраў адбыўся ў Ваеннай акадэміі Беларусі. Некалькі соцень былых курсантаў і слухачоў гэтай навучальнай установы папоўнілі камандны састаў узброеных сіл маладой незалежнай дзяржавы. Разам з беларускімі воінамі дыпломы аб заканчэнні акадэміі атрымалі таксама вайскоўцы з Расеі, Украіны, Малдовы і Узбекістана.

**Бяз'ядзерная зона**

Графік вываду з тэрыторыі Беларусі ядзерных ракет стратэгічнага прызначэння не парушаны, — заявіў на прэс-канферэнцыі міністр замежных спраў РБ Уладзімір Сянько. Ён запэўніў, што згодна з двухбаковай беларуска-расейскай дамоўленасцю апошняя ядзерная ракета пакіне тэрыторыю Беларусі да канца 1996 г. Кіраўнік знешнепалітычнага ведамства таксама паведаміў, што мае намер абмеркаваць пытанне стварэння бяз'ядзернай зоны ў цэнтры Еўропы з кіраўнікамі міністэрстваў замежных спраў Польшчы і Украіны. Паводле слоў Сянько, сустрэча міністраў трох дзяржаў адбудзецца 20 ліпеня ў Брэсце.

**Першы кампактальбом**

Знамянальная падзея адбылася ў культурным жыцці рэспублікі. У Менсккомплексбанку прайшла прэзентацыя першага кампактальбома беларускай класічнай музыкі. На двух яго дысках запісаны балет „Тыль Эйленшпігель" кампазітара Яўгена Глебава.

**Ушанаванне песняра**

У дзень памяці Янкі Купалы ў касцёле св. Роха ў Менску служылася імша па трагічна загінуўшым 54 гады таму паэту. А на вайсковых могілках, што па вуліцы Даўгабродскай, ля магілы песняра адбыліся жалобны мітынг і ўскладанне кветак. Да Янкі Купалы прыйшлі яго родныя, навукоўцы, супрацоўнікі музеяў, пісьменнікі, жыхары і госці сталіцы — усе тыя, каму дорага яго імя.

**Бяспальцы Ленін**

Шукальнікі медзі дабраліся ў Магілёве і да помніка Леніну, які знаходзіцца ля будынка Абласнога мастацкага музея. У скульптуры правадыра сусветнага пралетарыяту значна пацярпелі пальцы правай рукі. Але злодзеі хутка расчараваліся, калі аказалася, што скульптура зроблена з гіпсу.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- **Купалле ў Нарве і Белавежы.**
- **Саракагоддзе кафедры беларускай мовы.**
- **Як стваралася народная ўлада на Беласточчыне.**

# Тут золата на зямлі ляжыць

*(працяг са стар. 1)*
Гаўрылюк і Анатоль Паўлоўскі хваляць масажы доктара.

— Пасля такога масажу быццам бы нованароджаным сябе адчуваеш. У вачах святлее.

— Ruska medycyna jest niedoceniana, — энтузіястычна заяўляе Ежы Быстшыньскі, эмігрант з Сіднея. Разам з хворай жонкай, аўстралійкай, разлічвае на дапамогу доктара.

— I ta przyroda dziewicza! Perła natury! I ludzie tak pięknie po polsku, jakby kroili śledzika, mówią, — захапляецца з тыповым для эмігрантаў акцэнтам.

— Тут толькі лётнішча не хапае — дадае эмігрант. — Дабірацца тут на машыне гэта перажытак, страта часу. Ежы Быстшыньскі думае нават інвеставаць у аграбізнес і лячэбныя цэнтры.

— Chory człowiek zapłaci każdą sumę, — аргументуе ён.

Доктар Яўген Шмярко найменш хіба думае пра бізнес. На Беласточчыну папаў у 1994 годзе. Тады ў Старыне пад ягонай апекай аздараўляліся хворыя дзеткі з Мінска і Салігорска. Тады доктар Шмярко, разам з сябрамі ідэі — Янкам Морданем, Сяргеем Нічыпаруком, а. Рыгорам Сасной, епіскапам Савам — дабіўся неверагоднага рэзультату. Пасля месячнай пабыўкі дзеці аздаравелі. Найбольш дзіваваліся самі навукоўцы. Перад паездкай у Старыну дзяцей абследавалі ў лабараторыі імуналогіі і радыялогіі Міністэрства аховы здароўя Беларусі. Сярод 63 юных пацыентаў аж 56 дзетак мела паслабленыя імуналагічныя састаў. Пасля Старыны дзяцей абследавалі некалькі разоў. Старанна і ўпарта, бо выканалі аж 693 імуналагічныя тэсты. Вынікі шакіравалі. Дзеці зусім выздаравелі. Амаль усе. Доследы правялі таксама польскія навукоўцы. І лекары Шлёнскай паліклінікі пераканаліся пра феномен доктара Шмярко.

Доктар Яўген Шмярко не любіць гаварыць пра свае поспехі. Гэты сціплы, сардэчны чалавек за першай размовай выклікае давер. Залатазубая ўсмешка падкрэслівае яго постсавецкае грамадзянства. Напрыканцы пяцідзесятых гадоў быў ён студэнтам ядзернай хіміі. Як „добраахвотніка" накіравалі яго змагацца з аварыяй на Чэлябінскай атамнай электрастанцыі. Пасля гэтай канкамсамольскай прыгоды пачаў ён часта хварэць. Іншыя яго сябры з Чэлябінска хутка паміралі. Тады пачаў шукаць сабе ратунку. Перайшоў у медыцынскі інстытут. Там сустрэўся з забытай у Беларусі фітатэрапіяй. Калі ўспыхнуў Чарнобыль, доктар ведаў як бараніцца. За ім была трыццацігадовая навукова-даследчыцкая практыка.

— Сама радыяцыя і не такая страшная як гавораць, — сцвярджае Шмярко. — Людзі хварэюць ад хімічнага забруджання. Хворыя мусяць спажываць здаровыя харчы, шукаць дапамогі прыроды. А тут, у Дубіцкай гміне, аазіс чысціні і здароўя. Тут золата на зямлі ляжыць. Тут амаль кожная расліна мае лячэбныя якасці.

Доктар дадае, што не ўсюды растуць такія зёлкі.

— Расліна, — кажа, — як чалавек: уцягвае сокі зямлі і наваколля. А пушча, вядома ж не ад сёння, жыве яшчэ сваёй магутнай сілай. Тут назіраю цікавую асаблівасць. Сапраўды, у прыпушчанскіх вёсках радзіліся гордыя, таленавітыя людзі. Адсюль жа родам літаратары, беларускія дзеячы і змагары. Хімічнае забруджанне, кансерваваныя харчы, гул гарадскіх вуліц і адсутнасць кантактаў з прыродай — самая вялікая небяспека цывілізацыі.

Доктар Шмярко як ніхто пазнаў тайны фітатэрапіі і чалавечай псіхікі. Гаворыць, што кожнага чалавека трэба лячыць як індывідуальнасць. Свой арыгінальны метад выпрацаваў у санаторыях, шпіталях, паездках з дзяцьмі. Некаторыя вынікі шматгадовага вопыту памясціў у васьмітомным выданні „Ляччэнне і прафілактыка раслiннымі сродкамі" і ў звыш сотні навуковых і папулярна-навуковых артыкулаў. У Польшчы паказалася яго кніжка „Rośliny i zdrowie". Зараз рыхтуюцца і іншыя пераклады на польскую мову.

Доктар Шмярко не скрывае сваёй сімпатыі да Польшчы і тутэйшых беларусаў. Ён жа і паклоннік „Нівы".

— Вы так моцна і горда бароніце беларускасць, — успамінае і пахвалы мінскіх сяброў, якія чакаюць яго вяртанняў з „Нівай".

— Калі еду да вас, то ўжо на мяжы, здаецца, нейкія кілаграмы з плячэй злятаюць — жартуе.

Праўда, больш цэняць яго тут і на Захадзе, чым у Беларусі.

— У нас хопіць надзець белы халат і ты ўжо лекар. Здаралася, што цемрашальствам маю практыку называлі.

Але апошнім часам аўтарытэт яго ўмацоўваецца. У доктара Шмярко пачала лячыцца мінская інтэлігенцыя.

— Мы хацелі доктара ў сябе ўладкаваць, — гаворыць Сяргей Нічыпарук. — Але ж няпроста даць тут працу лекару з-за ўсходняй мяжы. Добра, як будзе нашым кансультантам і аўтарытэтам для польскіх фітатэрапеўтаў. На славе доктара Шмярко можна будаваць прэстыжныя курорты і санаторыі!

### Шанс для гміны

— Калі рушыць асяродак у Старыне, — разважаюць у гміне Дубічы-Царкоўныя, — створацца новыя магчымасці заработку. Віктар Лемеш, сам родам з Залешан, спадзяецца на супрацоўніцтва з мясцовымі людзьмі.

— Навошта ж такую бульбу, памідоры ці цыбулю везці з горада. Тут зручней купіць будзе. І якасць тут сапраўды высокаэкалагічная.

Сяргей Нічыпарук: — Многія будуць маглі заняцца гадоўляй пчол, коз ці фазанаў. Людзі будуць наймаць кватэры прыезджым, вазіць іх на фурманках па пушчы, нехта стане цырульнікам, яшчэ іншы краму з сувенірамі адкрые.

Анатоль Паўлоўскі: — Можна будзе паказваць беларускі фальклор, прадаваць вырабы з саломкі, паказваць помнікі прыроды і культуры.

Сяргей Нічыпарук: — Узнікне культура гадоўлі зёлак. На месцы можна будзе іх перапрацоўваць. Можна наладзіць „школу вытрымкі", модную на Захадзе. Пакінуць такіх у пушчы і хай самі змагаюцца за выжыванне. Лепшых умоў у Польшчы няма!

Віктар Лемеш: — Калі атрымаецца праект са Старынай, мы добраўпарадкуем апусцелыя школы ў Палічнай і Грабаўцы. Будзем узорам для ўсіх прыпушчанскіх гмін. І людзі пачнуць цаніць сваю зямлю.

**Ганна Кандрацюк**

# Чакаючы хлеба

Прыйшлося мне ў маі месяцы праязджаць праз Бялкі, што ў Нарваўскай гміне. Вёска немалая, але ціха ў ёй. На лаваччы, недзе пасярэдзіне, сядзела група пажылых жанчын. Затрымаўся я каля іх каб праведаць, што цікавага ў іхным свеце. Паколькі вёска жыве з поля, ад яго і зачапляю гутарку.

— Мы поле ўжо паздавалі, толькі на „дзялках" крыху робім. Дзе жыта засеяна, а дзе *картоплі* — але яны ўсе ў вадзе, зямля нізка. У агародах таксама поўна вады.

Пытаю пра жывёлу.

— Ніякай не трымаем.

— А мы то кабылу яшчэ трымаем, і двое парасят.

Дапытваю пра кароў.

— Кароў то мы не трымаем, але ў некаторых ёсць. Тут людзі мешаны: хто трымае, а хто і не трымае. А ёсць і такія хаты, дзе няма ўжо каму і трымаць — пустыя стаяць. Маладыя ў Беласток выехалі, а старыя паўміралі.

Пры нагодзе цікаўлюся вясковай дэмаграфіяй. Апошняе вяселле згулялі тут два гады таму: хлопец быў тутэйшы, а дзяўчына з Тапалян; цяпер у Беластоку жывуць. Калі былі апошнія хрэсьбіны ў вёсцы, цяжкавата жанчынам прыпомніць. Таксама і апошняе дзіця даўно тут радзілася. Няма каму радзіць, усе старыя, маладых мала. Дзяўчат у вёсцы няма, у Беласток павыязджалі. Хлопцы ёсць, і то *мажлівыя*, гаспадарныя, працавітыя, талковыя — каб пайшла яка замуж, то і жыла б за такім. Але як ісці на вёску, калі няма там ніякае „разрыўкі". Адно толькі, што часам па радыё нечага паслухаюць. Спадабаліся маім суразмоўніцам асабліва пастаноўкі вясковых самадзейнікаў з жаночымі перагаворкамі. Пытаю жанчын, ці самыя не прабуюць развесяліць свайго прыцішанага жыцця, напрыклад спевамі. Гэтым выклікаю не то нараканне, але ўжо нават лямант на цяперашні час.

— Калісь то мы спявалі, бо было ўсім весела.

Бо маладыя былі, падказваю.

— Няпраўда. Калісь маладыя, як канчалі школы, то працу мелі. А сёння што?! За навуку плаціць трэба. А як школу кончыць, то таксама працы няма; нават тых, што раней школы паканчалі — дармова тады ўсе вучыліся, — паскідалі з работы. Даюць „куранёўку". Каб усе рабілі, то і не была б яна патрэбная. А як тая „куранёўка" скончыцца, то што тады? Адзін кажа: „Выжуцілі з працы, то цо я тэраз бэдэ робіць? Едэн достае двадзесця мільёнуў, а я два. Бэндэ мусял ісць красць"

— Дзіва, што не спяваем. Дастала два мільёны рэнты, а за лякарствы семсот тысяч заплаціла — вазьмі і паспявай. Ды і яшчэ думай, што нейкі „бандзёр" у хату прыйдзе. Цяпер толькі зладзеі ўсё маюць.

— А калі ўжо пра спевы: што яны цяпер спяваюць!? Па-амерыканску толькі! Дзе ж падзеліся тыя, што папольску спявалі, Ірэна Сантар напрыклад, чаму яны не спяваюць?

— Або хоцьбы ў нас возьмем, у „калхозе" ў Трасцянцы: і пабудавалі „блёкі", і толькі машын, трактары цэлы час ездзілі, і ўсё было. Свіней гадавалі, гусі былі. Штотыдзень прыязджалі і забіралі. І грошы былі. А цяпер ужо год, як нічога не плацяць. Аборы пустыя стаяць, крапіва адна толькі расце... А калісь жа толькі поля абраблялі. Вось у *Гарымова* бывала, як едзеш, колькі кароў хадзіла; а цяпер толькі адна! Аж душа баліць, бо мы цэлае жыццё на *ролі* працавалі. Калісь мае дзеці, як „вакацыі" былі, пайшлі роў капаць, як дарогу ў Трасцянку рабілі. І за заробленыя грошы адзенне сабе купілі; то я таксама задаваленая была. Кажуць, што камуна знішчыла, але камуна ўсіх вывучыла. Вось адзін кажа: „Да *вензеня* пайду: там і працу дадуць, і паесці дадуць. Пайду ў гасподу, дам каму бутэлькай і пайду сядзець".



*Жанчыны супольна чакаюць хлеба.*

— Каб тыя бізнесмены, што па дваццаць мільёнаў бяруць, хаця чацвёртую часць нам далі, страўнікі ж у нас адналькавыя. Ці ж мы не зарабілі? Цэлае жыццё працавалі, дабытак трымалі, усіх карміл... І яшчэ падатак з нас бяруць! Навошта той падатак? Тыя, што ў „жондзі" сядзяць, ну, няхай сабе бяруць тры разы больш за нас, бо трэба, каб яны больш мелі, але не дваццаць тры разы! Разумных павыкідалі, асталіся ано такія, што толькі моляцца, а нічога не робяць. А маліся-разманіся, але калі нічога рабіць не будзеш, то і нічога не атрымаецца. Мы то молімся ано знаеце за каго: за Герка, што даў нам, вясковым бабам, рэнту. О, то за такога трэба маліцца!

Стаяў сонечны веснавы дзень. Усюды цішыня, якую пастаянна ўпрыгожвалі птушкі, што спявалі ў высокіх прывулічных дрэвах, а таксама недзе раз на паўгадзіны глумілі машыны, заблудзіўшыся на прарастаючы травою брук. Жанчыны супольна чакалі хлеба і другіх прадуктаў, якія прывозяць у іх вёску самаход з Нарвы. У краму ў Трасцянку не ходзяць, бо цяжка, ногі баляць. Каб не той хлеб з самахода, то нават і на сваю вуліцу не выходзілі б; сядзелі б у хаце.

А ці маладая дзяўчына ўседзіць у хаце? Што ёй рабіць у такіх Бялках? Ды ці толькі ў Бялках?..

**Аляксандр Вярбіцкі**

*Фота аўтара*

# Агія Сафія для беларусаў

**Размова з а. Анатолем КОНАХАМ, настаяцелем прыхода Агія Сафія — Прамудрасці Божай у Беластоку.**

***— Перад госцем Вашага прыхода стаеце перш за ўсё як будаўнік.***

— Калісьці, яшчэ ў часе вучобы, я ехаў з Варшавы і думаў: каб Бог даў магчымасць будаваць царкву, усе канікулы дзеля гэтага прысвяціў бы. Спытай Бога пра дарогу ў рай — пакажа найдаўжэйшую. Вось ужо каторы год будую. Бачу, што Гасподзь Бог і Прасвятая Багародзіца памагаюць. Людзям патрэбна надзея. Калі бачаць, што нешта робіцца, далучаюцца. У пабудове нашай царквы дапамагаюць не толькі праваслаўныя, але і рымскія каталікі. Яны цяпер інакш ставяцца да праваслаўя, бачаць яго вартасць.

***— Што плануецца ў царкве ў бліжэйшы час?***

— Сёлета і на будучы год царква будзе распісвацца. Распісанне гэта дар ад канстанцінопальскага патрыярха Варфаламея I і іканапісца, праф. Канстанціна Ксенапуласа. Ён будзе распісваць нашу царкву ў жніўні і верасні. Калі знойдуцца ахвотныя, праф. Ксенапулас павядзе таксама школу іканапісу.

***— Ваш прыход вядомы і тым, што пры ім працуе адзіны ў Беластоку недзяржаўны ZOZ (амбулаторыя).***

— Стараемся прыцягваць людзей. Наша царква ляжыць збоку. А так, зойдзе хтосьці да лекара, загляне і ў царкву.

ZOZ гэта ўласнасць Праваслаўнага брацтва св. Мікалая. Створаны ён з фінансавай дапамогай Швейцарыі, ад Сусветнай Рады Цэркваў. Працуюць у ім артапед, стаматолаг, акуліст, інтэрніст, ларынголаг, кардыёлаг і кардыёлаг-педыятр. Са жніўня будзе прымаць таксама лагапед. Усе лекары з II ступенню спецыялізацыі. Візіт каштуе 10 зл. Апрача кабінетаў, маем яшчэ і „сілоўню". Наш ZOZ павалі стае вядомым. Людзі прыязджаюць нават з-па-за Беластока.

***— Не скрываю, што перш за ўсё прывяла мяне да Вас цікаўнасць да беларушчыны ў Вашым прыходзе.***

— Наш прыход атрымаў самастойнасць 1 жніўня 1995 г. Якраз тады, калі вырашана справу самастойнасці прыхода, пазваніў мне ўладыка Сава і спытаўся, ці прыход пяройме багаслужбу з беларускімі элементамі, якая дагэтуль служылася ў царкве св. Магдаліны. Дык як жа ж — я сам беларус і іншыя святары беларусы. І раней у нашай царкве часам чыталася Евангелле па-беларуску. Цяпер на беларускай мове, апрача Евангелля, чытаецца Апостал і гаворыцца пропаведзь.

***— Беларушчыну ў царкоўнае жыццё Вы ўводзілі намнога раней. Сярод беластоцкай моладзі Вы былі вядомыя як святар, які вядзе заняткі па рэлігіі і праваслаўнае брацтва па-беларуску.***

— Сам я ніколі беларускай мове не вучыўся. Рэлігію я вёў спачатку па-польску. Некаторыя бабулі мелі нават прэтэнзію, што не па-руску. Пытаюся дзяцей, хто вы па-нацыянальнасці. Адказваюць згодна: паляні. Пачаў распытваць, як гавораць іхнія бацькі, дзяды. Вядома, калі ўжо не бацькі, дык напэўна дзяды гавораць па-беларуску. Так памалу і пачаў. Рабіў спробы: прачытаю нешта па-царкоўнаславянску — дзеткі не разумеюць. Па-руску прачытаю — сёе-тое разумеюць. А па-беларуску, дык польскамоўныя дзеткі большасць разумеюць. Яны гэту мову чулі ад бацькоў або ад дзядоў падчас побыту ў вёсцы.

Ужо калі я быў на Выгодзе, сустрэў знаёмага братчыка. Я да яго папольску, а ён мне па-беларуску. Моладзь перастала саромецца. Бачаць, што ёсць розныя нацыянальнасці. Палякі таксама адрозніваюць ужо беларусаў ад рускіх. Не сустракаецца ўжо паняцце „кацап".

***— А як успрымалі вернікі ўвядзенне беларускіх элементаў у багаслужбу?***

— Наогул станоўча. Большасць вернікаў паходзіць з Сакольшчыны і Дуброўшчыны, дык беларуская мова ім блізкая. Усё-такі здараліся і пратэсты.

Хацелася б, каб людзі адчулі сваю вартасць, каб не было так, што беларуская мова толькі штодзённая, а святочная іншая.

***— Адабрэнне з боку вернікаў усё-такі пасіўнае.***

— Маю крыху жалю да нацыянальна свядомых беларусаў. Я спадзяваўся на іхнюю падтрымку. Чакаў, што будуць прыязджаць, прымаць удзел у жыцці прыхода, але такога не адбылося.

Мець сваю Сафійскую царкву гэта даўнімі часамі была мара кожнага князя. А тут царква Агія Сафія для беларусаў. Я адчуваю, што гэта воля Божая. Беларусам трэба вучыцца гэтай царквы. Тут усім кіруе Прамудрасць Божая і беларусы павінны піць з гэтай мудрасці як з крыніцы.

Гутарыў **Алег ЛАТЫШОНАК**

# Менск: пачатак канікулаў

*(працяг са стар. 1)*

Анатоля Клышкі. Кнігі перамолваюцца на макулатуру.

У „Народнай газеце" паявіўся зварот групы гісторыкаў да самога прэзідэнта, каб выправіў нацыянал-фашысцкія скажэнні ў гістарычнай навуцы апошніх гадоў. Справа тут вельмі простая, дастаткова адпаведныя навуковыя ўстановы і выдавецтвы перавесці ў распараджэнне адміністрацыі прэзідэнта, паставіць над імі даверанага чалавека і нацыяналістам ход у народ будзе закрыты.

Папасці пад непасрэднае кіраўніцтва прэзідэнцкай вертыкалі марыць сёння ў Беларусі кожны завод. Калі пару месяцаў няма працы, няма зарплаты, рабочыя арганізуюць кароткатэрміновую забастоўку з галоўным патрабаваннем асабістай інтэрвенцыі прэзідэнта. Тады прэзідэнт сапраўды ўмешваецца, прысылае свайго чалавека з дадрукаванымі грошамі і прадпрыемства „запускаецца". Іншыя рэформы не праводзяцца.

А вось некаторыя трапляюць пад апеку вышэйшай інстанцыі асабліва гэтага і не жадаючы. Гэта камерсанты, якім прэзідэнт раней склаў інтымную прапанову: „Я вас всех перетряхаю". У чэрвені міліцыя наляцела на Камароўку, аштрафавала каля дзвюх тысяч гандлюючых. Тое ж самае было ўчынена на базары ў Гродне, дзе тавар — галоўным чынам свежая гароднiна з Польшчы — раскідалі і трушчылі нагамі. Пад ботамі строгіх ахоўнікаў парадку лягла не адна галоўка капусты — галоўнага цяпер увазнога тавару ў Рэспубліку Беларусь праз пераход у Кузніцы.

* * *

У Менску канікулы. Дрэннае надвор'е, гніюць трускалкі. Мае знаёмыя неяк нарвалі на славутым дачным участку „Лысая гара" зялёных і давай вёдры шчыльна прыкрываць, каб сустрэчныя не падумалі, што крадзеныя. У электрычцы ўзяў іх рогат — вёдры ўсіх пасажыраў былі шчыльна абвязаны паперай.

**Мікола ВАЎРАНЮК**

# Спрэчкі вакол ідэі, якой няма

Вясна і пачатак лета гэтага года надзвычай плённыя ў шматлікія канферэнцыі і сустрэчы іншага характару, якіх мэтай ёсць абмен вынікамі інтэлектуальнай творчасці людзей з розных краін усходняй Еўропы. У днях 28—29 чэрвеня адбыўся ў Ажарове каля Варшавы асаблівы семінар, якога ўдзельнікі — журналісты, філосафы, гісторыкі з Польшчы, Беларусі і Украіны — мелі адказаць, што змянілася ў гэтых краінах пасля 1989 г. Арганізатар — Фонд Баторыя — забяспечыў сапраўды добрыя ўмовы для дыскусіі вакол пастаўленых тэзісаў. Самая мясцовасць, дзе адбывалася нарада, так малая, што няма яе нават на картах Варшаўскага ваяводства. Гэта ў сапраўднасці толькі палац, дзе вяліся размовы, парк вакол палаца, крама і нейкія яшчэ будынкі — уласнасць каталіцкай суполкі *Veritas*.

З Беларусі прыехалі журналісты і рэдактары *Крыніцы*, *Культуры*, *Нашай Нівы*, *Роднага слова*, *Полымя*, *Беларускага гістарычнага часопіса*, філосаф Ігар Бабкоў і выконваючы абавязкі старшыні Беларускага народнага фронту Лявон Баршчэўскі.

**Уступам да дыскусіі на першай сесіі былі рэфераты паліталагаў: польскага — Тамаша Мэркеля і ўкраінскага — Алега Пагранічнага на тэму „Ідэйныя спрэчкі пасля 1989 г."**

**Паводле першага дакладчыка, палякі 1989 год успрынялі як канец камунізму** і што ідэйныя спрэчкі будуць весціся толькі сярод розных плыняў дэмакратычнага лагера. Антыкамуністычны лагер у Польшчы забыўся, што свае рацыі трэба безупынна даказваць. Тое, што ў Польшчы з'явіўся тыднёвік *Nie* і пастаянна захапляецца яго зместам амаль мільён верных чытачоў, Мэркель акрэсліў як „пансвінізм". Палякі пры камунізме пераўтварыліся ў статак свіней, якім можна цяпер падкідаць свінскую страву. Дэкамунізацыя, паводле дакладчыка, павінна была адбыцца так па матэрыяльных прычынах, каб адабраць камуністам сродкі, якія даюць ім неабмежаваныя магчымасці ў змаганні за ўладу таксама ў дэмакратычнай сістэме, як і па маральных, каб пакараць віноўнікаў дэмаралізацыі грамадства.

Дэмакраты пасля 1989 г. сказалі сабе, што не трэба біць пабітых, недаацэньваючы вопыт г.зв. сацыял-дэмакратаў.

Лібералізм з'явіўся ў Польшчы сярод грамадства, якое хацела мець усё тое, што мелі людзі на Захадзе. Ніхто не думаў, што са свабодай дзейнасці звязаны пастаянныя рызыка і адказнасць. Таму ліберальныя прынцыпы, якія сталі абавязваць у грамадскім і эканамічным жыцці, вельмі хутка скампраметаваліся. Сацыялістычнае грамадства чакала іншых, але простых вырашэнняў, такіх як пры камуністах. Улічваючы гэты фактар, усе правыя партыі як КПН, Рух адбудовы Польшчы Яна Альшэўскага прамаўляюць сацыялістычнымі лозунгамі.

Алег Пагранічны звярнуў увагу, што людзі, якія ў васьмідзесятых гадах дамагаліся зменаў, прывялі да ўласнасці і ўлады людзей з камуністычнага апарату, якія дзесяткамі гадоў змагаліся з усякай уласнасцю. На Украіне і Беларусі няма людзей, якія маглі б правесці нейкія асноўныя змены. На практыцы спробы ўвядзення рынычнай эканомікі канчаюцца яе кампраметацыяй. Прытым усходнееўрапейскае грамадства стала вельмі небяспечным, гатовым да выбуху, пачулася ашуканым і пакрыўджаным.

Пасля гэтых рэфератаў пачаліся шматгадзінныя пошукі супольных ідэй, якімі жыве грамадства, ці прынамсі яго эліты ў трох краінах. Аказалася гэта зусім невырашальнай справай. Палякі хацелі гаварыць пра шанц адаптавання лібералізму ва ўсходняй Еўропе, а асабліва ў Польшчы, беларусам і ўкраінцам гэтыя праблемы аказаліся зусім незразумелымі і чужымі. Безупынна ўцякалі яны на ніву філасофіі, літаратуры, тэарэтычных разважанняў пра пагрозу з боку расейскага імперыялізму. Відаць было, што ў галіне праблемаў, якімі жыве інтэлектуальная эліта Польшчы, а з другога боку — Беларусі і Украіны, існуе проста прорва. Лягчэй можна было знайсці супольную мову, падчас другой сесіі, прысвечанай гістарыяграфіі пасля 1989 г. Геранім Граля з гістарычнага часопіса *Mówią Wieki* сказаў, што гісторыя яшчэ не перастала служыць палітыцы. Паводле Гралі, часам можна аднесці ўражанне, што гісторыя Польшчы пачалася ад здрады ў Таргавіцы. Не было ніякай дыскусіі наконт феномену Польскай Народнай Рэспублікі, няма аналізу польскага сталінізму, а асабліва актыўнасці ў гэтым перыядзе польскіх інтэлектуалаў.

Лявон Баршчэўскі расказаў у сваім выступленні аб жахлівых практыках лукашэнкаўскай улады над знішчэннем тых вынікаў прац беларускіх гісторыкаў, якія далі трошку ведаў аб мінулым свайго народа. Сёння зноў друкуецца для школьнікаў сталінска-брэжнеўская версія мінуўшчыны Беларусі.

Мне прыйшлося сказаць між іншым пару слоў пра апісанне польскімі журналістамі і гісторыкамі падзеяў саракавых гадоў на Беласточчыне. Пра пяцідзесятую гадавіну пацыфікацыі беларускіх вёсак польскім падполлем не ўспамянула ніводная беластоцкая газета, а масцовы гісторык Ежы Кулак маньяцка піша пра супрацоўніцтва беларусаў з НКУС. З гэтай пісаніны можна аднесці ўражанне, што нават дзеці ў Залешанах былі агентамі сталінскай тайнай паліцыі.

Вельмі гладка пайшла размова пра новыя плыні ў літаратуры, культуры, філасофіі трох краін. Усе тут гаварылі так, быццам бы паэты падчас чытання сваіх вершаў.

**Яўген МІРАНОВІЧ**

# Адгалоскі

## Што мае думаць беларус?

Можна махнуць рукой, як гэта заўважае рэдакцыя на „народныя ўяўленні гісторыі Беларусі" Васіля Петручука (глядзі: „Просьба да барацьбітоў за Беларусь" у „Ніве" н-р 25 ад 23 чэрвеня 1996 г. Няхай такія ўяўленні аўтар сабе мае і спакойна дажывае глыбокай старасці. Але так думае значная колькасць беларусаў Беласточчыны і трэба трошкі шырэй глянуць на такое ўяўленне.

Савецка-бальшавіцкія падручнікі, з якіх мы ўсе засвойвалі беларускую мову, пакінулі трывалы след у свядомасці. Калі так глянуць назад, у далёкія школьныя гады, дык саветчына вылазіць з кожнай амаль чытанкі. Не беларушчына, спадар Васіль Петручук, а саветчына. Цікава, чаму ў гэтых падручніках пісалася аб адзіным ворагу — немцах? Калі паявіўся нейкі здраднік, дык была гэта адзінка, проста паршывая авечка ў грамадстве. Знойдзецца такая ў кожнай чарадзе. Мы цяпер ведаем, што не была гэта адзінка, але дзесяткі тысяч беларусаў адкінулі савецчыну і абаранялі беларушчыну. Пры нямецкай акупацыі ў школах беларускія настаўнікі навучалі беларускай мове. З таго не вынікае, што акупацыя была для народа добрая. Вынікае толькі тое, што беларусы пакарысталіся нагодай для нацыянальнага адраджэння. Бальшавікі аб гэтым ведалі і чырвоная партызанка ліквідавала школы разам з настаўнікамі пад шыльдай барацьбы з нямецкімі акупантамі.

Калі я, а думаю што не толькі я, пазнаёміўся больш-менш з гістарычнымі фактамі, звязанымі з існаваннем Беларусі ў час нямецкай акупацыі, пачаў ставіць зусім простыя пытанні. Чаму тысячы маладых беларусаў добраахвотна ішлі (нават даслоўна) у беларускія вайсковыя згуртаванні, у беларускія школы? Шкада, спадар Петручук, што такіх пытанняў вы не ставілі. Можна сабе ўявіць тамашнюю рэчаіснасць: трыццатыя гады — масавыя рэпрэсіі, ліквідацыя ўсёй інтэлігенцыі, савецкая акупацыя Заходняй Беларусі — тое ж самае. Кожны горад мае свае Курапаты. Да таго ж немцы ў 1941 годзе былі першым саюзнікам СССР. Затым пытаю спадара Петручука, што меў думаць звычайны жыхар Беларусі пра сітуацыю, у якой ён апынуўся. А што мае думаць свядомы сучасны беларус, калі на сэрцы ляжыць яму існаванне беларускай мовы, дзяржавы, нацыі. Ці трэба мець многа розуму каб, лічыўшы сябе беларусам, не бачыць да чаго вядзе палітыка Лукашэнкі? Гэта відна як на далоні, але нашым некаторым грамадскім дзеячам бяльмо вочы закрывае.

I яшчэ адна справа. Набліжаюцца выбары ў Сейм. Беларускае асяроддзе выставіць сваіх маладых кандыдатаў, затым просьба да прыхільнікаў Лукашэнкі: не перашкаджайце ім. Калі вашы ўнукі і дзеці будуць лепш жыць, то і вы на гэтым скарыстаеце. Вы, што трэба збудаваць, збудавалі.

Трэба, каб грамадства ўсходняй Беласточчыны мела свайго прадстаўніка (не аднаго) у Сейме. І не для гонару ён мае там быць. Ёсць многа спраў да ўлад, каб людзі нашых вёсак і мястэчак маглі дастойна жыць. Магчымасці ёсць: ураджайная зямля і працавітыя людзі. Трэба да ўсяго гэтага вопыту і розуму. Думаю, што аднаго і другога хапае, як гэта іранічна Петручук напісаў, „барацьбітам за Беларусь".

I яшчэ адна заўвага да наватарскіх думак спадара Петручука, калі піша што „сорам быць лізунамі «Салідарнасці»". Думаю, што сорам быць лізуном каго-небудзь, не толькі „Салідарнасці".

**Міхась Куптэль**

## Школа рэкрутаў

Гавораць людзі, што найгорш бывае, калі галыш становіцца панам. Найлепш уцякай ад такога асобеня!

У кастрычніку 1917 г. здарылася вялікае няшчасце. Уладу ў Расіі ўзялі звычайныя люмпены і пачалі знішчаць свой народ і яго вялікую культуру. Хваля дзікунства ўлілася таксама ў Беларусь. Семдзесят гадоў бальшавіцкага панавання пераўтварыла беларускі народ у рускамоўную сацыяльную групу. Не толькі чужая мова, але таксама чужы менталітэт завалодалі душамі беларусаў. І калі я сёння чытаю ў „Ніве" выказванні нейкага „заслужанага" маёра, ахвяру бальшавіцкай адукацыйнай сістэмы, пра пагрозу, якую Беларусі нясе каталіцызм, мяне яго пісаніна не здзіўляе. Бо і адкуль такі маёр можа ведаць, што знакаміты беларускі паэт Янка Купала быў таксама каталікам, што лідэр грамадаўскага руху Браніслаў Тарашкевіч, прыхільнік далучэння Заходняй Беларусі да БССР, быў таксама вернікам гэтага веравызнання, што ксяндза Вінцука Гадлеўскага за яго адданасць беларускай справе мучылі палякі, саветы, а ў канцы задушылі немцы. А можа дзед Зянона Пазняка, які сядзеў за беларускасць у польскіх турмах, быў ворагам Беларусі? А можа быў ім Францішак Скарына, Мікола Гусоўскі, Францішак Багушэвіч, Адам Станкевіч — усе ж яны каталікі.

Паводле нашага маёра напэўна ворагам Беларусі быў Кастусь Каліноўскі; вядома, змагаўся ён з сапраўднымі сябрамі нашага народа. Згодна з такой логікай, самым выдатным прыхільнікам беларускасці быў граф Міхась Мураўёў-Вешальнік, зараз за ім ішлі Мяснікоў, Цанава, Машэраў. Толькі пры канцы трыццатых гадоў „сябры" нашага народа паслалі да неба, праз калідоры, такія як у Курапатах, каля двух мільёнаў сялян, інтэлігентаў, найлепшых сыноў Беларусі.

Зразумела, што Станіслаў Балаховіч, які змагаўся з „сапраўднымі беларусамі", такімі як Фелікс Эдмундавіч і Язэп Вісарыёнавіч, быў ворагам беларускасці. Так вучылі на рэкруцкіх курсах. І таму гэта самая чыстая праўда.

**Мікалай Панфілюк**

## Нарэшце

У 24 нумары „Нівы" я прачытаў два лісты ад сапраўдных беларусаў на тэму апошніх падзей у Беларусі. Пазьняк, Латышонак, Вапа, Яновіч — ці гэта беларусы? Ці беларус пойдзе пад консульства Рэспублікі Беларусь, каб рабіць там бардак? Навошта Вапа ездзіў у Мінск, калі раней апаганьваў Беларусь? Ці не сорамна Яновічу глядзець у вочы беларускаму консулу, які прысутны быў на канферэнцыі, прысвечанай ягонаму юбілею 60-годдзя з дня нараджэння?

Быў я ў Гродне ў той дзень, калі Лукашэнку выбіралі прэзідэнтам, быў таксама падчас парламенцкіх выбараў у лістападзе мінулага года. Усе людзі, якіх я там спаткаў, гаварылі, што галасавалі на камуністаў і Лукашэнку. Ніхто не хацеў выбіраць Пазьняка.

На Беласточчыне не павінна быць ніякага інфармацыйнага бюро для Пазьняка, а Яновіч хай сядзіць у Крынках і не выступае па радыё са сваімі навукамі, як „быць беларусам", бо ён сам не з'яўляецца беларусам. „Ніва" павінна быць газетай для беларусаў і не трэба там друкаваць ніякіх дзённікаў Яновіча.

Чаму пад консульства не пайшлі Алесь Барскі, Янка Сычэўскі, Міхалай Гайдук, Віктар Швед. Бо яны беларусы. А пазняк, вапа, латышонак, яновіч (*друкуецца згодна з арыгіналам — рэд.*) гэта смецце.

Гэта мая думка. Хочаш рэдактар друкуй, хочаш не друкуй. Я „Ніву" люблю і надалей чытаць буду.

**Барыс Палоцкі**
**(Дзядзька Захар)**

**Ад рэдакцыі:** Паважаны спадар Палоцкі, звяртаем Вам і ўсім іншым чытачам увагу, што ні Пазьняк, ні Латышонак, ні Вапа, ні Яновіч сваімі выказваннямі нікога і ніколі не абражалі.

## Polemizować rzeczywiście nie można

Proszę wybaczyć, że piszę po polsku, a nie po białorusku; boję się jednak, że w moim wydaniu nie byłaby to prawdziwie białoruska mowa. A jednak czuję potrzebę napisać w związku z listami wydrukowanymi w dziale „Наша пошта" („Ніва" н-р 24 ад 16 чэрвеня 1996 г.). Rzeczywiście, polemizować z ich treścią nie można z powodu dziwnego „pomieszania materii" i swoistego sposobu rozumowania. Zwłaszcza list podpisany „Ваш чытач з Гайнаўкі" przypomina mi podobne wypowiedzi drukowane na łamach „Niwy" w latach osiemdziesiątych, w których biło oburzenie z powodu polskiej niewdzięczności wobec dobrodziejstw niesionych nam przez ZSRR. Wtedy też ręce opadały. Ludzie o takiej mentalności już niczego w swoim życiu nie zrozumieją i nawet ich własne dzieci nie są im w stanie cokolwiek wytłumaczyć! Niechby jednak byli bardziej krytyczni wobec siebie, gdy wypowiadają się w sprawach sobie niezrozumiałych. Przez swój upór potrafią zrobić wiele złego. Wywołują bowiem głosy podobnie uproszczone, ale jątrzące, z drugiej strony barykady, tworząc w ten sposób klimat sprzyjający rozwojowi nienawiści. A grunt narodowy czy religijny bardzo sprzyja rozwojowi nienawiści i zacietrzewieniu. Przemyśl powinien tu być poważnym dla nich ostrzeżeniem (chociaż i na swoim podlasko-białostockim terenie też mają ci ludzie przykłady przemawiające za potrzebą rozwagi).

**Władysław Klimek**
**Gorzów Wielkopolski**

# Zaproszenie do przeglądu

Uprzejmie informujemy, że w dniach 14 — 16 listopada br. odbędzie się V edycja Ogólnopolskiego Przeglądu Dorobku Artystycznego Mniejszości Narodowych i Etnicznych p.n. „WSPÓLNOTA W KULTURZE". Tegoroczny jubileuszowy przegląd realizowany jest pod patronatem Ministerstwa Kultury i Sztuki i Ministerstwa Spraw Zagranicznych.

Do przeglądu zapraszamy plastyków, literatów, zespoły muzyczne, wokalne i taneczne, solistów i twórców reprezentujących i wywodzących się z kręgów kultur mniejszości narodowych i etnicznych. Organizując imprezy „WSPÓLNOTA W KULTURZE" realizujemy od pięciu lat wytyczone cele:

— prezentację i promocję twórców wywodzących się z różnych kręgów kulturowych, etnicznych i narodowych,

— umożliwienie poznania tradycji, kultury i obyczajów przedstawicieli innych narodowości,

— umożliwienie współobywatelom o innych korzeniach narodowych prezentacji swojej kultury na forum ogólnopolskim w prestiżowych placówkach stolicy, a także poprzez szerokie relacje telewizyjne i prasowe,

— budowanie na płaszczyźnie spotkań ludzi sztuki i kultury cywilizacji współistnienia przeciwstawiającą ją tendencjom konfrontacji.

**Warunkiem uczestnictwa w przeglądzie jest przesłanie wypełnionej karty uczestnictwa na adres OK „ARSUS" w nieprzekraczalnym terminie do 15 września br.**

Kartę mogą artyści i twórcy otrzymać w stowarzyszeniach społeczno-kulturalnych mniejszości kulturalnych lub bezpośrednio u organizatora. Organizatorzy spośród nadesłanych zgłoszeń wybierają zespoły i twórców prezentujących swe dokonania w Warszawie opierając się m. in. na rekomendacji stowarzyszeń i przedstawicieli Wydziałów Kultury Urzędów Wojewódzkich, na terenie których prowadzona jest działalność artystyczna. Ilość uczestników jest ograniczona ze względu na czas trwania imprezy, a także ilość posiadanych środków finansowych.

Organizatorzy zapewniają wszystkim uczestnikom jeden nocleg i posiłek (obiad) w Warszawie w dniu występu. O pomoc w sfinansowaniu kosztów przejazdu i transportu do Warszawy zwróciliśmy się do Wydziałów Kultury Urzędów Wojewódzkich, które od początku pomagają w prezentacji twórców i zespołów w ramach „WSPÓLNOTY W KULTURZE".

Wszelkich informacji udziela sekretariat Ośrodka Kultury „ARSUS", 02-495 Warszawa, ul. Traktorzystów 14, tel. 667-34-54, tel/fax 662-76-26 p.p. Ewa Maślanka — sekretarz biura organizacyjnego i Grażyna Zaczek — realizator i pomysłodawca „WSPÓLNOTY W KULTURZE".

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Экскурсія ў Беларусь

Напрыканцы мая вучні з Нарвы, Бельска-Падляшскага і бельскія ліцэісты паехалі на экскурсію ў Мінск. Падарожжа ў сталіцу Беларусі мінула хутка, хаця трэба было пераехаць 524 кіламетры. У Мінску нашы падарожнікі пасяліліся ў гасцініцы.

Ужо першага дня ўдзельнікі экскурсіі наведалі тэатр імя Янкі Купалы, дзе пабачылі п'есу Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча „Сялянка".

Зранку, ужо пасля першай ночы ў мінскай гасцініцы, нашы сябры рушылі паглядзець горад. Ані Садоўскай з Нарвы найбольш запамяталіся Кансерваторыя, Педагагічны універсітэт, Цэнтральны банк, Дзяржаўны цырк, Дом афіцэраў, Акадэмія мастацтваў, Батанічны сад, Акадэмія навук, Універсітэт культуры, Дзяржаўны парк імя М. Горкага, Планетарый, а таксама помнікі Леніна, Якуба Коласа, Янкі Купалы, Сымона Буднага. Экскурсанты наведалі таксама магілу герояў, дзе гарыць вечны агонь. Пазней прыйшла пара на музеі: Старажытнай Беларусі і Беларускай літаратуры.

Цікава выглядаў трэці дзень пабыўкі. Нашы сябры паехалі ў Мір і Нясвіж. Там захапіў іх, вядома, Мірскі замак з XVI ст. і рэзідэнцыя Радзівілаў у Нясвіжы, дзе зараз санаторый. Яшчэ гэтага дня пабывалі яны ў мінскім цырку.

Не менш цікавым аказаўся чацвёрты дзень у Беларусі. Экскурсанты з Беласточчыны паехалі ў Заслаўе, старажытнае мястэчка, звязанае з князёўнай Рагнедай. Заснаваў яго Уладзімір Вялікі ў 985 г., а назва гарадка напамінае пра гордага сына Рагнеды, Ізяслава. Зараз у Заслаўі варта наведаць *жывы музей*-хату завозніка, заслаўскі млын і царкву з XVI ст. За савецкіх часоў у гэтай царкве быў музей, а зараз там ізноў спраўляюцца багаслужбы. Яшчэ гэтага дня нашы сябры ездзілі на мінскім метро і пабывалі ў планетарыі. Не забылі таксама і пра славуты мінскі Тэатр оперы і балета.

Пра вялікую прагу пазнання сведчыць і тое, што нашы падарожнікі яшчэ да ад'езду паспелі наведаць Батанічны сад і Беларускі музей. Ад уражанняў круцілася ў галаве. Пэўна і таму зваротная дарога мінула незаўважальна.

— Хвіліны, якія я пражыла ў Мінску, астануцца мне доўга ў памяці, — піша Аня Садоўская, а яе сяброўка Кася Русіновіч (таксама вучаніца Ніны Абрамюк) напісала прыгожы верш пад загалоўкам „Беларусь".

*(паводле справаздачы Ані САДОЎСКАЙ)*



*Мірскі замак.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## *Вучнёўская творчасць*



*Аня Садоўская з Нарвы — аўтарка ніжэй прыведзеных вершаў.*
Фота Ганны КАНДРАЦЮК

### Месца нараджэння

Наша месца нараджэння рознае:  
бальніца, дом, панадворак.  
Ды гэта не такое важнае.  
Мы аб гэтым ведаем і не заўсёды  
наша месца нараджэння кахаем.

Як трэба кахаць бальніцу?..  
Гэта ж немагчыма!  
Трэба кахаць тое месца,  
дзе цяпер жывеш!  
Хтосьці сказаў, што там дом  
чалавека, дзе яго сэрца.

### Дрэвы

Раслі дрэвы ў лесе —  
сосны, дубы, бярозы,  
а нізам мох слаўся  
серабрыста-зялёным дыванам.  
І птушкі спявалі.  
Ішлі лесам аднойчы дзеці —  
цешыліся, спявалі, крычалі.  
Жыхары лесу злякаліся,  
зашумеў лес непраходны.  
Красаваліся магутныя дубы, елкі.  
Прыйшоў прагны чалавек:  
— Высечы мне іх трэба!  
Ацалелым дрэвам хацеў  
нават адсекчы карэнні.

**Аня САДОЎСКАЯ**

# Легенда Пантанаса

***(уэльская казка)***

У парафіі Мертыр Тудфіль ёсць пячэра, якую некаторыя называюць Пячэра Легенды. Гадоў сто таму стаяла там ферма Пантанас. А ў той час жыло шмат фей ды эльфаў, якія часта танцавалі на палях фермера па сваіх чарадзейных кругах. Той вельмі не любіў гэтае шумлівае племя, але не ведаў, як іх пазбавіцца. Нарэшце знайшоў ён старую вядзьмарку, якая паабяцала расказаць, як пазбавіцца фей. Але ён мусіў аддаць ёй усё малако ад адной вячэрняй і ад адной ранішняй дойкі. Згадзіўся фермер і атрымаў такую параду: пераараць усе палі, на якіх былі чарадзейныя кругі. Убачыўшы такое, феі абразяцца і ніколі болей не будуць турбаваць фермера.

Той так і зрабіў. І сапраўды, феі больш не турбавалі яго, а на палях, дзе заўсёды гучала прыгожая музыка, цяпер панавала цішыня.

Але аднойчы, калі фермер з Пантанаса вяртаўся дадому, сустрэў яго эльф у абліччы чалавека. Калі фермер наблізіўся, маленькі эльф выняў меч, і паказаўшы ім у бок фермера, сказаў:

— Ідзе, хутка ідзе да цябе помста.

Засмяяўся быў селянін, але тут жа адчуў сябе вельмі няёмка.

Праз колькі дзён пад вечар дом раптам затросся, быццам быў землятрус. А потым пачуўся гучны голас:

— Помста ідзе.

Наступнай раніцай, калі селянін сабраў усё збожжа і хацеў несці яго ў клець, яно загарэлася і згарэла дашчэнту. Нават саломінкі на полі не засталося. Такое маглі зрабіць толькі феі.

Селянін, вядома ж, засумаваў і ўжо шкадаваў, што паслухаўся вядзьмарку, пакліkаўшы праклён на сваю сям'ю.

Праз дзень ён сустрэў у полі маленькага эльфа, якога бачыў некалькі дзён таму. Эльф паказаў на яго мячом і жорстка сказаў:

— Гэта толькі пачатак.

Селянін спалатнеў і пачаў клікаць эльфа, але той не хацеў ісці да яго. Нарэшце эльф згадзіўся падысці і спытаў селяніна, чаго яму трэба. Фермер сказаў, што ён больш не супраць таго, каб феі зноў танцавалі на яго палях, толькі б яны не рабілі яму ніякае шкоды.

— Не, — адказаў эльф. — Наш кароль даў слова, што жорстка адпомсціць за абразу. Ён не можа ўзяць слова назад, ніхто на свеце не можа паправіць гэта.

Селянін загаласіў, і эльф паабяцаў пагаварыць са сваім гаспадаром. Праз тры дні ён будзе чакаць тут з адказам караля.

У азначаны час селянін чакаў на тым самым месцы. Эльф сказаў, што кароль абмеркаваў просьбу селяніна. Ён вырашыў, што праклён не будзе дзейнічаць пакуль жыве селянін і яго дзеці. Але назад слова ён узяць не можа і праклён абрынецца на тых крэўных, што будуць жыць пасля іх.

Селяніна гэта задаволіла. З таго часу феі зноў прыходзілі на яго палі, і зноў адтуль неслася прыгожая музыка.

* * *

Прайшло сто гадоў. Праклён не дзейнічаў, хаця гучны голас час ад часу нагадваў, што помста ідзе. За столькі гадоў людзі прызвычаіліся да яго і не верылі ўжо, што гэта сур'ёзна.

Аднойчы новы ўладар Пантанаса, нашчадак таго селяніна, прымаў у сябе дачку суседа з Пэн Крэйг Даф. Маладыя збіраліся пабрацца шлюбам праз некалькі тыдняў, і іхнія бацькі былі вельмі шчаслівыя. Якраз напярэдадні Калядаў нарачоная наведвала сям'ю будучага мужа. Спецыяльна на гэты выпадак быў падрыхтаваны святочны абед.

Усе сядзелі ля каміна і расказвалі розныя гісторыі, каб прабавіць час, ка-

# У апошнія дні школы

У апошнія дні толькі што мінуўшага навучальнага года „Ніва" наведала Пачатковую школу ў Чыжах. Вучылася ў ёй 150 школьнікаў у класах 1—8 ды 24 дзетак — у прадшкольным аддзяленні. Беларускую мову ад другога класа вывучала тут 86 працэнтаў вучняў. Як сказаў нам дырэктар школы Сяргей Насковіч, у асноўным на ўрокі беларускай мовы не ходзяць слабейшыя вучні. Для добрага вучня вывучэнне роднай мовы гэта не толькі абавязак, але і прыемнасць.

Дзяўчаткі, якіх вы бачыце на здымку, гэта Агнешка Качаноўская (злева) і Анна Селеванюк. Якраз скончылі яны шосты клас. На працягу цэлага мінулага навучальнага года яны чыталі „Ніву", а асабліва ўважліва — „Зорку", у якой было шмат крыжаванак і адгаданак. Вельмі любяць яны адгадваць розныя загадкі! Тады прысылаюць у рэдакцыю адказы. „Ніва" на гэты раз прывезла ім узнагароды за правільныя адказы ў школу. А ўручыў іх дзяўчаткам асабіста дырэктар Сяргей Насковіч.

Зычым чыжоўскай школе, каб надалей большасць дзетак вывучала беларускую мову і не парывала кантактаў са сваёй „Зоркай".

**Ада Чачуга**
*Фота аўтара*

# Вяселле нашых продкаў

*(пачатак у папярэдніх нумарах)*

Маладых саджалі за стол. Абсыпалі іх збожжам, хмелем, грашыма. У хату заходзілі спявачкі з усяе вёскі, каб паспяваць маладым. Беларускае вяселле было надзвычай паэтычнае. Кожнай абрадавай дзейнасці спадарожнічалі спецыяльныя песні. Накіраваны яны былі не толькі ў бок маладой пары, але і бацькоў маладых, сватоў, дружак, сваякоў. Амаль у кожнай вёсцы абрадам спадарожнічалі фантастычныя гульні і сюрпрызы. Усё гэта залежала ад магчымасцей і заангажаванасці вяскоўцаў.

Вось у некаторых вёсках гулялі, правяраючы кемлівасць маладога. Дзяўчаты заводзілі ў камору маладую і там надзявалі яе шлюбны ўбор. Тады клікалі маладога і мусіў ён пазнаць сваю сапраўдную нарачоную. Тут варта адзначыць, што даўней жаніліся незнаёмыя, часам пасля аднаго спаткання, таму малады часта не пазнаваў маладуху.

Цікава выглядаў звычай дзялення каравая (у сённяшні час каравай часта заступае торт ці банкух — „сукач"). Каравай трэба было есці ўсёй грамадой. Дзяліў яго старшы сват, а першы кавалачак з сярэдзіны ён дорыў маладым. У той жа час маладым дорылі падаркі. На Падляшшы гэты абрад называюць *перапіваннем*. Апрача вясельнага каварая госць быў абавязаны выпіць чарку гарэлкі. Абрад абдаравання-перапівання меў не толькі практычную мэту. Многае рабілася дзеля гульні, весялосці і сімволікі. У дзеянні гэтым былі і элементы магіі ды народных забабонаў. Перапіваючы, гаварылі: *Дару пяток медзі, каб былі дзеці дужы, як мядзведзі* або: *Дару дзве цыбулі, каб не паказвалі адзін аднаму дулі.*

Чулліва выглядала развітанне маладой з бацькамі, роднай хатай, сяброўкамі, суседзямі. Калі маладая заязджала ўжо ў хату будучага мужа, тут чакалі яе новыя „нечаканасці". Часам у варотах раскладалі вогнішча і маладыя, іх дружына мусілі пераходзіць праз агонь. Бацькі сустракалі маладых пачастункам і запрашалі іх у хату. Заходзячы ў хату маладая сыпала жытам і цукеркамі ва ўсе куткі, у хлеў несла яна кавалак сыру, на студню вешала пояс, каб усюды вялося дабро. Жанчына ад маладой (старшая дружка) вешала на абразы ручнікі, засцілала стол абрусамі. З песнямі і музыкай праводзілі маладых у клець або стадолу спаць. Раніцай маладая выходзіла да гасцей у галаўным уборы замужняй жанчыны.

Апошняй стравай на вяселлі была (у залежнасці ад мясціны) каша, капуста ці смажаная курыца. З гэтай нагоды людзі і гаварылі: *Пасля капусты сталы пусты* або *Пасля кашы няма пашы.* Вяселле магло працягвацца цэлы тыдзень. Але хоць гулялі некалькі дзён, рэдка калі напіваліся, бо пілі ў асноўным квас, піва, мядуху, варануху (напітак з ягад). У наступную нядзелю пасля вяселля маладыя з блізкай раднёй маладога ехалі ў госці да бацькоў маладой. Яе бацькі частавалі пірагамі.

**Канец**

# Крыжаванка н-р 28

Разгадайце словы (выступаюць яны ў тэксце „Экскурсія ў Беларусь"). Пасля правільнага рашэння вы атрымаеце лозунг.

Адказ на крыжаванку н-р 23. Лозунг крыжаванкі: **Сакрат Яновіч.**

Узнагароды — запісныя кніжкі — выйгралі:

**Ярак Валкавыцкі**, ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім, **Іаанна Кананюк** з Васькоў.

**Віншуем!**

На яе паехалі дзеці з Нарвы і Бельска

У філармоніі

У палацы Радзівілаў

Тады не ходзім у школу

... старажытнай Беларусі або Беларускай літаратуры

Маці Ізяслава

Мястэчка звязанае з княгіняй Рагнедай

Мірскі...

маёнтак Радзівілаў

Напр. Оперы і балета

На ўроку, або экскурсіі

Малюнак Ані САЕЎСКАЙ з Кленік.

лі рэзкі голас, што ішоў ад ракі Таф, перапалохаў іх. Голас крычаў:

— Надышоў час помсты!

Адразу запанавала цішыня, і ўсе пабеглі на вуліцу, каб паслухаць, ці скажа голас што яшчэ. Праз колькі хвілін той жа рэзкі голас, які глушыў шум шпаркае ракі, што бегла па камянях, зароў:

— Надышоў час!

Ніхто не разумеў, што гэта азначала, але перапалохаліся ўсе так, што і слова не маглі вымавіць. Як толькі ўвайшлі яны ў дом, ён затросся, і перад вачыма спалатнеўшых ад жаху людзей з'явілася маленькая жанчына.

— Чаго табе тут трэба, жахлівая істота? — запытаў яе адзін з прысутных.

— Ад цябе нічога, чалавек з памялом замест языка, — сказала маленькая жанчына. — Мяне паслалі, каб я нагадала аб тым, што павінна здарыцца з гэтай сям'ёй. А скажу я так: сэрца дзявочае, як карабель, што не можа дапльіць да гавані, бо згубіўся штурман.

Сказаўшы гэта, яна знікла, быццам растала ў паветры.

Калі яна гаварыла, голас ад ракі маўчаў, але як толькі жанчына знікла, ён пачаў зноў:

— Надышоў час помсты!

Усе былі так напалоханы, што і мовы не было, каб працягваць фэст. Малады жаніх, якога звалі Рудэрк, пайшоў праводзіць сваю каханую Гуэрфіл дадому ў Пэн Крэйг Даф. Пайшоў і не вярнуўся.

Бацькі яго месца сабе не знаходзілі ад гора. Абшукалі ўсё наваколле, але нічога не знайшлі. Толькі стары Гуэрыд сказаў, што іх сына, пэўна, заманілі ў свае пячэры феі, што жылі ў Рэйвенз Рыфт.

* * *

Ішоў час. Тыдні складаліся ў месяцы, месяцы ў гады. Памерлі бацькі Рудэрка. Ферму купілі іншыя людзі, потым прадалі яшчэ камусьці, і так не засталося амаль нікога, хто б памятаў пра Рудэрка. Толькі яго нарачоная кожны дзень, у любое надвор'е хадзіла на ўзгорак глядзець ці не бачна дзе яе каханага. Праз тое, што праліла яна багата слёз, зрок яе слабеў, таксама як і сэрца, што балела за каханага. А ён так і не вярнуўся. Нарэшце смерць прыйшла і па яе.

Гады праходзілі як дым, і ніхто болей не памятаў пра Рудэрка, толькі паданні аб яго знікненні хадзілі сярод людзей. А з таго дня, што ён знік, сышлі адтуль і феі. Болей ніхто не чуў іх музыку ў тых мясцінах.

А Рудэрк вярнуўся. Ён і сапраўды заблукаў у пячэры фей. А здарылася так: калі ён вяртаўся з Пэн Крэйг Даф, дык пачуў цудоўную музыку, што лілася з боку Рэйвенз Рыфт, і спыніўся, каб паслухаць. Праз нейкі час музыка пачала сціхаць, быццам аддаляючыся, і ён пайшоў у пячэру, каб лепей чуць. Слухаў ён музыку з гадзіну ці дзве, як яму падалося, а калі яна сціхла, хутка пабег дадому.

Быў ясны сонечны дзень і ён пайшоў да царквы Фэн. Але можаце ўявіць яго здзіўленне, калі ён не ўбачыў ніякае царквы.

Пабег ён у Пантанас, расчыніў дзверы і ўбег у пакой. Усё ў доме было зусім іншае. А старога, які сядзеў ля коміна, ён зусім не ведаў.

— Хто ты такі і чаго табе трэба ў маім доме? — спытаўся стары.

Рудэрк адказаў не адразу. Ён зразумеў, што з ім нешта здарылася. Нарэшце ён сказаў:

— Я Рудэрк.

— Рудэрк? Я цябе не ведаю. Тут ніякі Рудэрк не жыве, і я нікога з такім імем не ведаю. Адзіны Рудэрк, пра якога я чуў ад майго дзеда, загадкава знік болей за сто год таму.

Рудэрк упаў у фатэль і загаласіў.

Стары падняўся і падышоў да маладога чалавека, каб супакоіць яго. Але як толькі ён паклаў яму руку на плячо, Рудэрк рассыпаўся ў пыл.

*З англійскай пераклаў*
*Алесь Кудраўцаў*

Людзі, якіх варта ведаць

# „А душою ў палі ўцякаю...”

Памятаю той момант, калі ў рэдакцыю да Валкавыцкага зайшла нясмелая яго зямлячка Алена Анішэўская з Белавежы, якая прынесла паказаць яму сваё апавяданне. Быў год 1983. Валкавыцкі на другі дзень прачытаў, выйшаў са свайго кабінета і кажа: „Маем новы набытак”, а аўтарцы адказаў у лісце: „Трэба пісаць!”

І неўзабаве я ўжо чытала перад друкам яе апавяданне „Вясна”, а мой пакой напоўніўся *вясняными пахамі прэлай зямлі, свежай зелені, кветак і чагосьці яшчэ, ніколі да канца нікім не выказаным...*

Столькі пішацца пра каханне, амаль усё пра людзей. У яе „Вясне” сцверджаны бясспрэчны факт: усё жывое кахаецца вясною.

„Каштан павярнуў галаву ў той бок, дзе некалькі гадзін назад, цягнуўшы з лесу наладаваны воз, убачыў маладую вішнёвую клячу, якая, заіржэўшы, радасна перабегла дарогу і затрымалася ў альшынніку.

Каштан не бачыў яе цяпер, але, уцягнуўшы ў храпы пахучае вясняное паветра, заіржаў коратка, прызываюча і чулліва наставіў вушы. У адказ пачуў візглівае іржанне даўгагрывай красуні і з капыта рушыў на яе голас”.

Ці ж можна прыгажэй апісаць каханне, чым зрабіла гэта Алена Анішэўская?

„Вішня неспакойна падрыгвала ўсім корпусам. Каштан крануў яе лёгка ілбом, а пасля палажыў галаву на яе клубе і так стаялі нерухома”.

Мушу прызнацца, што гэта апавяданне запала мне ў душу на ўсё жыццё. І сёння, калі мы гутарым з Аленай Анішэўскай у яе варшаўскай кватэры, я не магу не пачаць ад яго.

У нас не было каня, расказвае мне яна. Мы яго пазычылі ў суседа, каб вазіць з лесу галлё. Мама мела сачыць за тым, каб усё ішло як трэба. Конь аднак быў неспакойны: была вясна. Калі воз разгружалі, конь уцёк у хамуце. Усе яго лаялі і маму, што не ўтрымала каня. Дапытваліся, хто пакінуў адкрытую брамку. Шукалі вінаватых, што конь уцёк. Ніхто не падумаў пра адно: была вясна. А я, тады яшчэ зусім маладая, каня разумела.

І так, жывучы ад 1953 года ў Варшаве і працуючы 21 год у магістраце, думкамі Алена Анішэўская заўсёды была ў бацькоўскай хаце, сярод зялёных лугоў і шумлівых дубоў Белавежы, а сваю прывязанасць да роднага вылівала ў грамадскай працы на ніве беларускай культуры.

Менавіта ад „Вясны” пачалося пастаяннае супрацоўніцтва з „Нівай”. Былі вершы, апавяданні. Калі я асмелілася паказаць Валкавыцкаму сваю „Вясну”, успамінае аўтарка, я ўжо мела напісаныя два іншыя апавяданні: „Шчадруха” і „Сухое лета”. Выбрала тое апавяданне, якое здавалася мне найлепшым. Хацелася праверыць, ці яно штосьці вартае. А хутка пасля гэтага (ліпень—жнівень 83) на Французскай убачыла я ў кіёску „Ніву” (калісь яе ўсюды можна было купіць), а на першай старонцы з правага боку бачу маё апавяданне „Сухое лета” — пра абрад выклікання дажджу. У нас, калі доўга не было дажджу, збіраліся людзі, каб за адну ноч выткаць ручнік (напрасці, аснаваць і выткаць) ды абысці з ім усе палеткі да раніцы, спяваючы набожныя песні. Пасля гэтага ручнік завязвалі на крыжы, што стаяў у канцы вёскі.

Апавяданне „Шчадруха” было надрукавана ў Беларускім календары на 1985 год, у літаратурным альманаху „Белавежа”, падрыхтаваным на 30-годдзе літаб'яднання „Белавежа”, — апавяданне „Смак жыцця”. Алена Анішэўская друкавалася таксама ў „Зорцы”. У анталогіі „Гасцінец”, выдадзеным у 1992 годзе пад рэдакцыяй Георгія Валкавыцкага, змешчана яе апавяданне „Цыган і салаўі”. Вершы Алены Анішэўскай, напісаныя папольску, змешчаны і ў трох польскіх зборніках.

Калі пачала пісаць? Спрабавала, калі было ёй 15 гадоў. Тады жылі яны, вывезеныя з Белавежы, у Беластоку. У саракавым годзе хадзіла ў рускую школу ў Белавежы, дык і вершы былі напісаны парускую. На жаль, яны не захаваліся нават у памяці аўтаркі.

Мы гаварылі па-свойму, успамінае Алена Анішэўская, але ў школе найбольш нас вучылі па-руску, хаця крыху беларускай мовы было. Яшчэ перад вайной, мо ў 35—36 гадах, прыходзіў да нас сябра бацькі з Грамады, які жыў у Свіслачы. У яго была багатая беларуская бібліятэка, але прыходзіла паліцыя — і яго жонка спаліла кніжкі. Я не разумела спраў, пра якія размаўлялі дарослыя, але гэты чалавек навучыў мяне вершыка пра беларуса:

„Нос аблезлы, загарэлы,  
На калені порткі злезлі,  
Жонка — шчуплая кабета,  
Меў кабылку — здохла ўлетку”.

А пасля я знайшла ў бібліятэцы паэму Пушкіна „Палтава” ў перакладзе на беларускую мову. Да сёння памятаю асобныя ўрыўкі з яе. Мне страшна спадабалася гэта чыстая беларуская літаратурная мова. А тут вайна і немцы пачалі арышты ў Белавежы. 2 жніўня 1941 года забралі назаўсёды майго бацьку і двух вяскоўцаў з Падалян, а нас вывезлі на Беларусь у Аранчыцы, а пасля перакінулі ў Беласток. **Гэту паэму на беларускай мове я ўзяла з сабою.** Калі праз многа гадоў пасля тых падзей пачала ізноў пісаць, дык пісала па-беларуску і крыху вершаў па-польску.

У сямідзесятых гадах Алена Анішэўская пачала дзейнічаць у Варшаўскім аддзеле Беларускага таварыства, гэту грамадскую працу не спыняе да сёння, будучы на пенсіі. Ёсць цяпер Славянскі цэнтр на вуліцы Гагарына 15, кажа яна, дзе можам прытуліцца ад 10-ай да 17-ай гадзіны. Там збіраюцца галоўным чынам беларусы. Кніжку можна пачытаць і „Ніву” выпісаць. Некаторыя людзі апраўдваюцца: раней „Ніву” чыталі, цяпер — не. Не такая яна, як была — пішуць, але не ведаюць, што. А я лічу, што ў Ніве” заўсёды — і сёння — знойдзеш тэксты, якія могуць зацікавіць любога чытача, а апрача таго, заўсёды папоўніш свае веды.


Алена Анішэўская з мужам Сяргеем у сваёй варшаўскай кватэры.

У Славянскім цэнтры адбываюцца пасяджэнні праўлення Варшаўскага аддзела, старшынёю якога з'яўляецца д-р Мікалай Алексяюк, што працуе ў Інстытуце падстававых праблем тэхнікі ПАН, адным з шматгадовых членаў праўлення з'яўляецца Алена Анішэўская. Мяркуецца, што ў Славянскім цэнтры будзе сядзіба Варшаўскага аддзела.

Вельмі ганарыцца Алена Анішэўская, што ўдалося выдаць зборнік Земавіта Федэцкага „Цёплыя вечары ды халодныя ранкі” (зборнік беларускіх народных песень Лідскага павета). Гэта паляк, кажа яна, які знерваваўся, калі некаторыя пачалі ездзіць туды, каб даказаць, што там Польшча. І гэты паляк хацеў сабранымі там у 42—43 г.г. песнямі даказаць, што там была і ёсць Беларусь, бо не хто іншы, як беларускі народ стварыў гэтыя песні.

Анішэўская „выцягнула” грошы ад Міністэрства культуры, прадавала і распаўсюджвала гэты зборнік як умела. Перадала частку на Беларусь.

15 мая г.г. у Лідзе на базе гэтага песеннага зборніка зрабілі канцэрт і запрасілі Земавіта Федэцкага і яе. Шкадуе, што не змагла там быць.

І яшчэ адной справай ганарыцца яна. Што ўцягнула яна ў грамадскую працу ў Варшаўскім аддзеле Геню Шымчук. Малады, актыўны чалавек, закончыла аддзяленне архівістыкі. Вельмі патрэбны чалавек!

Праца дзеля хлеба была ў жыцці Алены Анішэўскай наогул канцылярская. А ў душы была яна і ёсць паэткай. Калі піша — бачыць лепш і глыбей за іншых. І сэрца яе рвецца туды, у Белавежу, дзе прайшло яе дзяцінства і засталася сумуючая па іх усіх бацькоўская хата. Калі толькі цёпла — едзе туды са сваім мужам Сяргеем (авіятар на пенсіі). Там ёй пішацца найлепш. Выступае па тэлебачанні, па радыё чытае вершы. Восенню ў Варшаве мае адбыцца яе аўтарскі вечар для пенсіянераў. Разумею яе, калі піша:

„Канферэнцыі гоман і шум,  
Многа слоў, што мяне  
не кранаюць,  
Целам тут неабходна мне быць,  
А душою ў палі ўцякаю...”

**Ада Чачуга**

*Фота аўтара*

# Фэстын у Вярхлессі

У халоднае і дажджлівае надвор'е 23 чэрвеня адбыўся чарговы фэстын арганізаваны ГП БГКТ у вялікай маляўнічай вёсцы Вярхлессе, што на Сакольшчыне. Назва вёскі адпавядае сапраўднасці, паколькі распалажана яна пад лясным каларытным масівам.

Мясцовая святліца была запоўнена старэйшымі, а таксама моладдзю, якая мае ўжо канікулы і вярнулася з гарадоў на лета да бацькоў у вёску.

Фэстын адкрыў старшыня ГП БГКТ, які прывітаў прыбылых паслоў Сейма Станіслава Малішэўскага і Сяргея Плеву ды коратка расказаў аб дзейнасці Беларускага таварыства ў яго юбілейнае саракагоддзе. Трэба тут падкрэсліць, што С. Малішэўскі атрымаў згоду войта гміны Шудзялава Чэслава Баткалы на правядзенне фэстынаў у Вярхлессі і ў Шудзялаве.

На фэстыне выступілі „Чыжаваяне” з Чыжоў з кіраўніком Яўгеніяй Якімюк і інструктарам-акампаніятарам Міхасём Яўхіменем з Гародні; жаночы дуэт Кананюк і Кандратовіч з Дубяжына; вакальна-музычны калектыў „Сальвадор” з Дубровы-Беластоцкай; „Арляне” з Орлі з інструктарам-акампаніятарам Мікалаем Федзіным з Гародні, а таксама з войтам гміны Мікалаем Іванчуком, які на штодзень апякуецца сваім мастацкім калектывам; „Незабудкі” з Курашава.

Прадаваліся тут касеты з песнямі беларускіх мастацкіх калектываў Беласточчыны і кніжныя выданні БГКТ. Падпісвалі свае кніжкі пісьменнікі-„белавежцы” Васіль Петручук, Янка Целушэцкі і Віктар Швед. Зацікаўленне кніжкамі было вельмі малое. Мясцовыя людзі старэйшага пакалення гавораць яшчэ на роднай мове, аднак жа сцвярджаюць, што не ўмеюць чытаць па-беларуску. Ды і на польскай мове кніжак амаль ніхто не купляў. Пэўнае зацікаўленне выклікалі толькі касеты. Пісьменнікі жартавалі: можа свае творы трэба запісваць на плёнку?

Вяртаючыся назад, аўтобусы з мастацкімі калектывамі затрымаліся на лясной кемпінгавай паляне з палаткамі і даўжэзным сталом, за якім пасілкаваліся бутэрбродамі падрыхтаванымі ў Вярхлессі кіраўніком святліцы Леанардай Сакалоўскай і вясковай моладдзю. Леснікі распалілі тут вогнішча, пры якім можна было пагрэцца ў надзвычай хмарнае надвор'е. Чарговы дождж прымусіў аднак вяртацца дадому.

**В. Ш.**

# Любая „Лявоніха"

*Як я Лявоніху любіў!.. Здаецца мне, што і яна мяне кахала, бо калі б не — навошта ў госці прыязджала? Дык як я ёю даражыў!.. Чакаў я, каб для мяне спявала мелодыі свае, віхром на сцэне танцавала...* Уладзімір ШКЛЯРУК

Пажаўцелы плакат (гэта ж трыццаць гадоў...), з двума сінімі здымкамі, чырвоныя літары пасярэдзіне: „Białoruska estrada «Lawonicha»". У прагмаме — песні, танцы, музыка, гумар, сатыра. Цана білетаў: для школьнікаў 3 злоты, для дарослых — 5 злотаў. Памятаеце?

*Добры дзень усім вам, нашы ягамосці, прыбылі мы сёння ды да вас у госці. Рады мы душою быць у вас у хаце, добрага здароўя ўсім вам пажадаці. Што апрацавалі, што ў праграме маем, мы ад вас нічога сёння не схаваем...* Хто памятае гэту песню, хто не... У архіве **Любы Томчык** (памятаеце яе салавейкавы голас?), цяпер Трахімчук, захавалася шмат з гісторыі „Лявоніхі" і самастойнай спявачай і педагагічнай Любінай дзейнасці. Песні розныя, па-беларуску, па-руску... Вось тады новая, з 8 лютага 1964 г.: *Мы стоим, мы глядим на дымок паровоза...* І пра Грузію па-беларуску, і пра каханне. Пра прыгажосць, пра радзіму... „Вось пачатак выступлення, — пісаў трыццаць гадоў таму Ул. Паўлючук. — Салісты спяваюць сентыментальна, Крупа з Оляй Андраюк танцуюць бадзёра, Рэня Внушынская і Янка Крупа вядуць канферанс. Праграма „Лявоніхі" эксплуатуе праблему, якую экспануюць усе эстрадныя калектывы — праблему кахання..." І скетчы, і жарты, і гумар, бывала, досыць „салёны", як на публіку, дзе пераважала вясковая дзятва...

Доўга сумавалі і сумуюць беларусы па „Лявонісе". Памятаюць артыстаў, песні, выступленні, настрой, калі прыязджала „Лявоніха". Чаканне яе. І вялікі жаль у сэрцах астаўся, што „Лявоніхі" няма, што ўжо ніколі не прыедзе, не збярэ народ стары і малы, не ўзаўецца з Янкам Крупам над сцэнай, не запяе з Любай, Нінай, Валяй, Галінай... Выпадкова іх сустракаем, артыстаў „Лявоніхі". Некаторыя яны назаўсёды рассталіся з песняй, іншым спадарожнічае яна ўсё жыццё.

— Ой, вельмі хацеў бы я дваццаць першае стагоддзе сустрэць з музыкай! — неспадзявана ўбачыўшы ў нашай рэдакцыі Любу Томчык-Трахімчук усклікнуў Пятро Чэрнякевіч.

— Вельмі добры дзень чацвер, — усміхнулася Люба. Пятра таксама мы даўно не бачылі ў нас. — Цудоўна сустрэцца пасля стольких гадоў, паўспамінаць. Некаторых ужо няма ў жывых... Вось Барыс Жэшка памёр...

Сутрэліся мы з Любай Томчык-Трахімчук сапраўды зусім выпадкова. Збірала я матэрыял пра Асяродак апекі над дзецьмі, што на вуліцы Орляй у Беластоку. Вельмі дапамагла мне педагог з гэтага дому для „трудных" дзяцей, якраз яна. „Ці вы не з „Лявоніхі" будзеце?" Я „Лявоніху" чула маленькім дзіцём, над татавай галавой, дайшла яна да мяне больш ужо як легенда. Толькі на здымках у „Ніве" сустракала некаторыя твары... Але не забуду тае радасці, той вялікай уцехі сярод публікі, што „Лявоніха" да нас прыехала. Так, з тае „Лявоніхі" спявачка перада мною.

У той згаданы „добры чацвер" завітала да нас Люба. І, як ні глядзі, дзяўчаты спеюць як добрае віно. Дзе там той прыгажуні Любе Томчык, якую памятаеце са сцэны, да сённяшняй! Праўду кажу! Значыць, можам сабе ўявіць, што было б, калі б зноў сабраць тых дзяўчат і хлопцаў, і выпусціць на сцэну. Што ж, Янку Крупу цяжкавата было б узляцець у танцы над сцэнай са сваёй палачкай...

Як Люба Томчык трапіла ў „Лявоніху"?

— Канчала я педліцэй у Беластоку. Атрымала наказ працы ў Разадранцы. Я ў той час была на пятым курсе музычнай школы, на вакальным аддзяленні, і немагчыма было ўсё гэта сумясціць. І даведалася я ў Сяржы Плевы, што прымаюць у беларускую эстраду салістаў. Камісія ў Беларускім таварыстве выслухала пару маіх песень, і мяне прынялі ў „Лявоніху". Пачалася падрыхтоўка праграмы, вывучэнне тэкстаў. 24 чэрвеня 1961 года пачала я працу...

Нарадзілася Люба Томчык у Баброўніках. Спявала ад пачатковай школы. У ліцэі вучылася таксама ігры на скрыпцы ў Вэнглінскага і Эдварда Гойліка, спяваць — у Людмілы Панько. Песня і музыка спадарожнічала ёй усё жыццё — ад выступленняў на школьных святах, да лаўрэаткі І Агульнапольскага конкурсу ў Зялёнай Гуры. Пасля былі клубы савецкай песні, музычныя гурты моладзі і дзяцей. У „Лявонісе" выступіла на дзвюх тысячах канцэртаў. Пасля кар'еры ў „Лявонісе" кіравала Клубам гандлёўца „Гэрмес", працавала ў Акруговым праўленні Прафсаюзаў аховы здароўя, Ваяводскім праўленні ТППР, ПРОНе, у асяродку апекі над моладдзю з разбітых сем'яў на вул. Орляй 8 у Беластоку. Заўсёды з музыкай. У 1966 г. з беластоцкімі „Жаўтадзюбамі" заваявала „Залатога салаўя" на Фестывалі песні Прыбалтыкі...

Але вернемся да „Лявоніхі". Першы канцэрт яна дала 12 лістапада 1960 года. „Лявоніха" не баялася бездарожжа. Калі самаход застрагаў у гурбах снегу, артысты браліся дапамагчы выбрацца яму на цвёрды грунт. Канцэрты даваліся ўсюды. Прыходзілася выступаць нават у клуні на таку. Як было ў Вярхлесі: „Збіліся яны ў маленькай каморцы вярхлескай рамізы паміж матаровымі помпамі і *завіясамі* пажарных вужоў розных памераў. У каморцы страшэнна цесна, артысты павінны хутка скінуць з сябе штодзённую вопратку і пераапрануцца да выступленняў". Так пісаў роўна трыццаць гадоў пра пачатак канцэрту „Лявоніхі" Ул. Паўлючук.

— Бывае, у святліцы халадэча, мароз, публіка тупае ў валёнках, у кажухах, а мы, паўголыя, танцуем, спяваем, пара нам выходзіць з вуснаў з кожным словам, але ўсміхаемся, — смяецца Люба. — Я аж голас панча траціць.

„Лявоніху" ведалі ва ўсёй краіне — і ва Вроцлаўскім, і Апольскім, Катавіцкім, Жэшаўскім, Кялецкім, Люблінскім ваяводствах... З успамінаў артыстаў можна было б скласці кнігу прыгод незвычайных і „нармалёвых" на тысячы дарог. Давалі 5—6 канцэртаў у тыдзень. Рэшта часу — падрыхтоўкі, рэпетыцыі, новая праграма.

— З вёсак мы часта вярталіся пасля поўначы, раніцай — наступны дзень працы...

Магістр Люба Томчык-Трахімчук пра песню выказалася і навукова, пад кіраўніцтвам Васіля Белаказовіча. „Унесла яна вялікі асабісты ўклад у дзейнасць аматарскіх клубаў на Беласточчыне" — сцвердзіў прафесар, ацаняючы дыплом на выдатна. Люба Томчык, спявачка, сапраўдны, шчыры педагог з вялікім сэрцам, пра якога з чуласцю выказваюцца былыя выхаванцы, адышла ўжо на пенсію. Музыка і спеў спадарожнічаюць Любе далей і ў сям'і. А сустрэць яе можна і на ўсіх аглядах, фестывалях беларускай песні. Шкада, што не на сцэне, але ўсё ж іх я злавіла ў аб'ектыў фотаапарата — Янку Крупу і Любу Томчык. Праўда — з песняй чалавек заўсёды малады!

**Міра Лукша**
*Фота аўтара*



*Янка Крупа і Люба Томчык-Трахімчук.*

**Васіль Сакоўскі**

# З мінулага маёй сям'і, вёскі і мясцовасці

***(працяг; пачатак у 18 н-ры)***

Наш народ быў моцна веруючым тады, набожным. Рэгулярна хадзіў у царкву, святкаваў святы, пасціў, паслушна выконваў царкоўныя абрады і абавязкі перад царквой і святаром сваім, але рэлігійнага фанатызму ў яго ніколі не наглядалася. І гэта пахвальна.

Кіруючыся вялікай набожнасцю, мае продкі рэгулярна наведвалі не толькі сваю царкву, але і вядомыя святыя месцы. Найбольш знанымі і слаўнымі мясцовымі святынямі заўсёды былі Супрасльскі манастыр і Грабарка. З яшчэ бліжэйшых ад нашай вёскі і слаўных сваёй святасцю месц, якія ў адпаведныя святы рэгулярна наведвалі мае вяскоўцы і акалічныя нашы людзі, былі бельская, корнінская і пухлаўская цэрквы.

Вельмі набожнай жанчынай была мая другая бабка (мама маёй мамы) — Ульяна Сянкевіч, якая пасля замужжа жыла ў вёсцы Кленікі, але паходзіла з вёскі Трашчоткі. Яна пасціла ўсе пасты, рэгулярна хадзіла ў сваю царкву і наведвала святыя месцы.

Аднойчы, калі была яна ў пухлаўскай царкве, было там мноства народу. Так многа, што нельга было ані стаць на калені, ані тым больш праціснуцца наперад і паставіць свечку. Бабка, як гэта ў звычаі ў нас, па-над галовамі людскімі перадала сваю свечку наперад.

І раптам яе, спошчаную і змучаную, агарнуў вялікі жаль на сябе, што прайшоўшы такую дарогу, яна нягодная асабіста паставіць запаленую свечку перад адпаведным угоднікам і памаліцца пры ёй.

Калі так мучылася, у думках бязлітасна дакараючы сябе, раптам ёй здалося, што нешта знаходзіцца каля яе ног. З вялікімі намаганнямі нагнулася і падняла знаходку. Гэта была такая самая свечачка, але надзіва цэленькая, просценькая і аж усміхалася да бабкі. З вялікай радасцю і набожнасцю мая бабка, цяпер ужо асабіста, данесла, запаліла і паставіла сваю свячу там, дзе і паложана ёй стаяць.

Гэтага здарэння яна ўжо ніколі не забыла і любіла нам, дзецям, прыпамінаць аб вялікай ласцы Божай...

У перыяд царскай Расіі ўся вёска і ўся наша прыпушчанская тэрыторыя належала Гродзенскай губерні. Не раз я чуў ад старэйшых людзей, як яны калісьці па справах пехатой у Гродна хадзілі.

Бывала, канешне, што і далей пехатой тады хадзілі, напрыклад, у Кіеў. Туды хадзілі памаліцца ў слаўных кіеўскіх святынях.

У меру росту рэлігійнай свядомасці нашага народа і ўмацавання праваслаўя пасля ліквідацыі уніі, пачаў таксама пракладацца ад нас паломніцкі шлях і ў найбольшую праваслаўную святыню імперыі — Кіеўска-Пячэрскую лаўру. А з часам проста стала модай або ўнутранай патрэбай для нашых продкаў хаця б адзін раз у жыцці зрабіць паломніцтва ў Кіеў і пакланіцца яго святыням. А ўжо абавязкова пабываць там павінен хаця б адзін прадстаўнік з кожнай нашай сям'і. Мабыць, адсюль і пагаворка ў нас: „Язык да Кіева давядзе".

Былі, канешне, такія, што і па некалькі разоў туды хадзілі, часта хворыя ўжо, каб ратавацца ад цяжкай хваробы, напрыклад, ад сухотаў. Сухоты або туберкулёз лёгкіх былі ў той час найстрашнейшай хваробай, бо найбольш ад яе людзей умірала, нярэдка цэлыя сем'і. Вылечвацца ад сухотаў пачалі толькі пасля апошняй вайны.

Па словах майго таты, іх сусед Канстанцін Герасімюк, захварэўшы сухотамі, два разы яшчэ хадзіў памаліцца ў Кіеў. І працягнуў з гэтай страшнай хваробай яшчэ сем гадоў.

Адлегласць ад нас да Кіева старэйшыя людзі лічылі на 700 вёрст. Гэтую адлегласць — па расказах — паломнікі прахадзілі за два тыдні ў адзін бок.

З колішняй сям'і майго таты паломнічаў у Кіеў яго бацька, а мой дзед Амяльян. (Канешне, ён тады не быў яшчэ дзедам, бо быў даволі маладым чалавекам. І тым больш, не быў маім, бо мяне не было яшчэ на гэтым свеце і не хутка меў я паявіцца на ім. І, думаю, добра сталася, што не паспяшаўся я са сваім прыходам на гэты свет тады, бо ці ўдалося б мне зрабіць кар'еру ў царскай Расіі, невядома, а што памёр бы да гэтага часу, то напэўна. А жыццё ўсё ж такі цікавае і цяпер.)

Дабіраўся дзед у Кіеў не пяшочкам, а поездам ужо. Потым часта ўспамінаў гэтае паломніцтва, і пераважна не пра духоўную, а цялесную страву, якую ў Кіеве атрымаў. Проста не мог нахваліцца манастырскай ежай мой дзед, так смачна і сыта яго ў манастырскай кухні кармілі.

Дзед мой, як было ўжо сказана, быў добрым, заможным гаспадаром на ўсю вёску. Любіў таксама смачна паесці, і не шкадаваў сабе і сямейнікам сваім. А і выпіць пры нагодзе не адказваўся, хаця з гэтай нагодай усялякае бывала. Калі ж на так доўга запомнілася яму манастырская кухня, трэба верыць, што і сапраўды была яна вартая такой пахвалы. Гэта аднак пярэчыць нашаму ўяўленню аб манастырах і жыхарах яго, іх цялеснай сціпласці, устрыманасці. Дагаджаць жа свайму трыбуху смачнай ежай таксама не малым грэхам лічыцца. І з гэтым грэхам, думаю, напэўна мусілі і ўмелі там змагацца. Значыць трэба думаць, што ў Кіеве мой дзед быў не толькі паломнікам, але і госцем у таксама ўжо спамянутага мною манастырскага святара Сергія. А з гэтага ў сваю чаргу вынікае, што і трапезнічаў ён там не як манах ці звычайны паломнік, а дастойны госць. Найчачай, гэта бацюшка Сергій пастараўся так прыхарошыць паломніцтва свайму земляку і сваяку. Я ўдзячны яму за гэта...

***(працяг будзе)***

# НАШЫ КАРАНІ

**LXXXIX. Ваяўнічыя**

У XVI стагоддзі Бельск быў найбольшым горадам на Падляшшы. Як сцвярджаюць д-р Антон Мірановіч у сваім грунтоўным даследаванні „Падляшскія праваслаўныя асяродкі і арганізацыі ў XVI і XVIII стагоддзях" ды а. Рыгор Сасна і Дарафей Фіёнік у манаграфіі „Гісторыя царквы ў Бельску-Падляшскім," у Бельску жыло каля 4 тысяч жыхароў. Больш-менш у гэтым часе ў ім працавала 232 рамеснікаў розных прафесій і болей за 200 купцоў і дробных гандляроў. Бяльшчане валодалі аграмадным, сягаючым 400 валокаў (г.зн. каля 8 тысяч га), абшарам даволі ўраджайнай зямлі, укосных сенажацяў ды неблагога лесу. Бойкаму гаспадарчаму, грамадскаму і духоваму жыццю выдатна спрыяла распалажэнне Бельска на скрыжаванні вялікіх шляхоў з Маскоўскага і Літоўскага вялікіх княстваў у Польшчу і далей на захад, а таксама з Прычарнамор'я ў Прусію і Скандынавію.

Археолагі лічаць, што Бельск існаваў ужо ў IX — X стагоддзях як абарончая крэпасць дрыгавічоў. Лічыцца, што першым хрысціянскім храмам у ім была праваслаўная царква, заснаваная ў 1038-1041 гадах, падчас паходаў вялікага князя кіеўскага Яраслава Мудрага на яцвягаў і мазавецкага ваяводу Мецлава. На працягу 400 гадоў Бельск быў праваслаўным горадам; першы каталіцкі касцёл у ім паявіўся каля 1430 года. Праваслаўныя традыцыі тут былі вельмі моцныя, гэта быў магутны цэнтр праваслаўя. Перад Берасцейскай уніяй 1596 г. у Бельску дзейнічалі праваслаўныя храмы: Богаяўленскі сабор (сённяшняя Свята-Міхайлаўская царква), Троіцкая, Прачысценская, Уваскрасенская, Мікалаеўская цэрквы і капліцы ў прыгарадах.

Выдатную ролю ў духовым жыцці не толькі Бельска, але і ўсяго Падляшша спаўняла духавенства **Богаяўленскага сабора** і паўстаўшае пры ім у 1594 г. брацтва Богаяўлення Гасподняга. Пачаткова аснову брацтва складалі бельскія рамеснікі-кушняры, затым пачалі ў яго прыбываць прадстаўнікі іншых рамёстваў, купцы, сяляне, баяры, і яно вырасла ў вялікую і вельмі актыўную ды заможную арганізацыю, якая стала выразнікам думак, поглядаў і адносін праваслаўных Бельшчыны да падзеяў не толькі духовага, але і палітычнага жыцця на Падляшшы і ва ўсёй краіне.

Падчас царкоўнага сабору ў Бярэсці ў 1596 г. дэлегацыя з пяці чалавек ад бельскага праваслаўнага брацтва рашуча выказалася супраць уніі і падпісалася пад рашэннямі праваслаўнага сабору. Пасля іх вяртання ў Бельск усе братчыкі падтрымалі становішча сваіх дэлегатаў і заявілі, што яны не прызнаюць уніі і духоўнай улады былога свайго епіскапа Іпація Пацея, галоўнага ініцыятара уніі, аб'явілі, што яны разам са сваімі сем'ямі застаюцца вернымі праваслаўю. У брацтве і пры ім сталі гуртавацца ўсе, хто быў непахісны ў веры бацькоў.

Амаль адразу пасля 1596 г. з боку уніятаў пачаліся адкрытыя атакі на праваслаўных і брацтва. Пры дапамозе гарадскіх улад, у якіх верхаводзілі каталікі, уніятам удалося захапіць некалькі праваслаўных цэркваў, у тым і Богаяўленскі сабор. Пачалася зацяжная, бо амаль 50-гадовая, барацьба за гэты храм. Ён мо з дзесяць разоў пераходзіў з рук у рукі, цягнуліся бясконцыя працэсы ў мясцовых і каралеўскіх судах, у Бельск для разгляду справы прыязджала некалькі каралеўскіх камісій, каралі выдалі некалькі спецыяльных грамат, у сапраўдных бітвах за сабор удзельнічала каралеўскае войска, лілася кроў, разрабоўвалася маёмасць брацтва, расцягалася багацейшае царкоўнае абсталяванне, літургічныя прадметы, бясцэнны багаты кнігазбор. Братчыкі прадавалі апошняе са сваёй маёмасці і складаліся на аграмадныя сумы на суды, выезды са скаргамі да каралёў, абнаўленні абрабаванага храма, цярпелі раны і пабоі ў белы дзень на вуліцах горада, сядзелі без суда ў турме, але не паддаваліся, да апошняга баранілі сваю царкву.

Некаторыя не вытрымоўвалі гэтага праследу, здзекаў, катаванняў і адыходзілі з брацтва, і яно пачало слабець. Урэшце уніяты дабіліся ад караля ўказу, які забараняў брацтву ўдзелу ў праваслаўных набажэнствах і выступленняў супраць уніяцкага духавенства. Тым, хто не падпарадкуецца гэтай пастанове, пагражала пакаранне аграмаднай сумай 500 злотаў і выгнанне з горада. Богаяўленскі сабор перайшоў ва ўладанне уніятаў. Верная праваслаўю частка братчыкаў усё ж не спыніла змагання, яна ў 1645 г. перайшла ў Мікольскае брацтва, якое дзейнічала пры Мікалаеўскай царкве і манастыры, і працягвала барацьбу.

Нягледзячы на гэта бясконцае змаганне за існаванне і за свой храм, Богаяўленскае брацтва здолела ўвесь час утрымоўваць брацкую школу. Яна славілася высокім узроўнем навучання, яе наведвалі не толькі праваслаўныя, але і каталікі ды уніяты, і гэта вельмі не падабалася іхняму духавенству. Яно дамагалася у гарадскіх улад і нават у караля закрыцця школы. Каталіцкія і уніяцкія ксяндзы пісалі каралю, што яна забірае каталіцкую і уніяцкую моладзь і пагражае знішчэжыць „адзіна правільную веру каталіцкую" ў горадзе і павеце. Брацтва ўтрымоўвала таксама шпіталь для хворых і прытулак для сірот і бяздомных.

Змаганне бельскіх богаяўленскіх братчыкаў не прапала марна — за іх прыкладам ішлі іншыя праваслаўныя абшчыны.

**Мікола Гайдук**

# Радзіма — Родзіна

**Частка LIII**

Зараз прагну пазнаёміць чытачоў з поглядамі на Радзіму выдатнага эміграцыйнага дзеяча Антона Адамовіча, які нарадзіўся ў Мінску ў 1909 годзе і да сёння жыве ў Задзіночаных Штатах Амерыкі. Антон Адамовіч ужо ў палове дваццатых гадоў праявіў выключныя здольнасці як літаратуразнавец. На жаль, тагачасныя савецкія ўлады пераскрэслілі на многія гады яго літаратуразнаўчую кар'еру. Стаў ён адной з першых ахвяраў сталінскага тэрору на Беларусі. Ужо ў 1930 годзе быў арыштаваны і абвінавачаны ў прыналежнасці да дзейнасці ў Саюзе вызвалення Беларусі. З ссылкі вярнуўся ў 1938 годзе, аднак у далейшым знаходзіўся пад строгім наглядам НКУС і не мог свабодна выяўляць сваіх поглядаў на савецкую рэчаіснасць і беларускую літаратуру.

У час нямецкай акупацыі супрацоўнічаў з беларускім друкам. Пасля разгрому гітлераўскай Германіі апынуўся на вызваленай альянтамі тэрыторыі. У так званай Трызоніі, гэта значыць заходняй Германіі, прымаў актыўны ўдзел у заснаванні і развіцці беларускага друку. Працаваў або супрацоўнічаў з такімі часопісамі як: „Конадні", „Шыпшына", „Сакавік", „Бацькаўшчына".

Быў адным з ініцыятараў заснавання Інстытута па вывучэнню СССР. Пераехаўшы ў ЗША працаваў у рэдакцыі Радыё „Свабода". Напісаў і выдаў шэраг выдатных кніг, прысвечаных савецкай палітыцы і беларускай літаратуры. Антон Адамовіч жыве да сёння, хаця, зразумела, што па ўзроставых прычынах ужо не прымае актыўнага ўдзелу ў беларускім эміграцыйным жыцці.

Асабіста лічу яго адным з найбольш выдатных і арыгінальных даследчыкаў беларускай літаратуры, чалавекам, які нямала зрабіў у галіне азнаямлення Захаду з беларускім пісьменствам.

Я непасрэдна сустракаўся з Антонам Адамовічам у 80-х гадах — два разы ў Англіі і два разы ў Амерыцы. Правёў з ім некалькі дзесяткаў размоў, якія цягнуліся часта многа гадзін. Антон Адамовіч узбагаціў мяне многімі фактамі і пазнаёміў з дзесяткамі асуджаных у БССР пісьменнікаў, з якімі ён сустракаўся ў Мінску і ў ссылцы.

З размоў гэтых выпучаю сёння толькі тыя фрагменты, якія адносяцца да трактоўкі гэтым выдатным беларусам Радзімы.

„Пытаеце пра Радзіму? Перад усім хачу вам сказаць, што гэта слова павінна пісацца намі з вялікай літары. А гэта таму, што мабыць ніводной нацыі, як нам беларусам, свет не зрабіў толькі злога і не паставіў толькі перашкод на нашым шляху да поўнага ўсведамлення сваёй нацыянальнай тоеснасці, а тым самым і разумення ідэі Радзімы. Мне здаецца, што гаворачы аб Радзіме трэба прыгадаць першыя словы з „Пана Тадэвуша" Адама Міцкевіча, якія падкрэсліваюць вельмі трапна тое, што як цаніць Айчыну, той толькі даведаецца, хто яе страціў. Якраз я належу да такой катэгорыі людзей. Першы раз я яе страціў у 1930 годзе, калі быў арыштаваны, асуджаны і высланы ў глыб Расіі. Другі раз, калі быў прымушаны немцамі пакінуць Менск і пераехаць у Берлін. Трэці раз я страціў Радзіму, калі апынуўся ў Трызоніі і цвёрда пастанавіў не вяртацца ў БССР, бо ведаў, што такое вяртанне абазначала б для мяне непазбежную смерць. І калі гаварыць шчыра, то я, хаця і веру ў незалежную Беларусь, то ўсё ж такі не веру, што я змагу калі-небудзь вярнуцца ў вольную Айчыну. Мабыць, не хопіць ужо ў мяне на гэта часу. Так ці інакш магу сказаць, што ўсё, што можна было зрабіць для адраджэння Беларусі, то я стараўся рабіць даволі паслядоўна. А што з гэтага атрымаецца, паглядзім. Калі б аднак у маім сэрцы не было веры ў Радзіму, дык я, апынуўшыся тут на Захадзе ў вольным свеце ў свае трыццаць пяць гадоў і валодаючы добрым здароўем, мог бы заняцца многімі прафесіямі, якія забяспечылі б мне хлеб і нармальнае жыццё.

Аднак вярнуся да мінулага. Да дваццатых гадоў, да так званай беларусізацыі, калі здавалася нам, пачынаючым пісьменнікам і літаратуразнаўцам, зрэшты, як і ўсёй беларускай адраджэнскай інтэлігенцыі, што ў рамках БССР адродзіцца беларуская нацыя і расквітнее суверэнная Радзіма. Зразумела, што многае тыпова бальшавіцкае і рускае ўжо тады нас палохала, але і многае беларускае і незалежнае нас абнадзейвала. Скажу шчыра, другое пераважала. Аднак мы ведалі, што трэба гэтаму другому дапамагаць і таму мы працавалі не пакладаючы рук".

**Алесь Барскі**

# Усё для здароўя

Пасля ўвядзення новага палажэння супраць курэння нікаціну ў публічных месцах, які абавязвае ў нашым грамадстве ад 1 чэрвеня г.г. прыкмеціў я ўжо нейкія змяненні.

На чыгунцы, напрыклад, менш курцоў парушае закон. У вагоне для некурачых падарожны можа смялей дыхаць свежым паветрам. А калі і трапіцца нейкі „адважны", ды так хавае папяросу „ў рукаў", каб яго ніхто не ўбачыў.

На перонах таксама не прыкмячаецца курцоў. Аднойчы, едучы ў Чаромху, яшчэ на станцыі ў Беластоку адзін з падарожных „пусціў" дымок на пероне. Якраз праходзіла двух паліцыянтаў. Адным сказам напомнілі чалавеку закон. Ён хутка пакінуў папяросу, перапрасіў „сторажаў" парадку і схаваўся ў вагон.

Гэтыя прыклады паказваюць, што можна ўсё зрабіць: і кінуць курыць, і прыстасавацца да закону, і быць сапраўды чалавекам, а не зверам.

Хвалюе мяне іншая справа. Не ўсе адказныя чыноўнікі адносна ставяцца да праблем грамадскай паталогіі. Напрыклад, вельмі прыхільна да антынікаціннага палажэння аднесліся начальнікі Беластоцкага мяснога прадпрыемства. Разумеючы паважу сітуацыі і адмоўныя паслядоўнасці курэння, прапанавалі яны сваім працаўнікам, каб тыя адмовіліся ад курэння папяросаў на прадпрыемстве ў час працы. А хто гэта зробіць, атрымае павышэнне зарплаты на 30 злотаў у месяц.

Працаўнікі недаверліва паставіліся да прапановы кіраўніцтва прадпрыемства. Тыя, што падпісалі „абавязацельствы", ужо змаглі пераканацца, што іх месячная зарплата сапраўды павысілася на 30 зл.

Гэта не адзіны прыклад „добрай волі" ў нашых прадпрыемствах. Такое ж самае ўвялі ў сябе кіраўнікі кракаўскага магістрата, аб чым паведамляла тэлебачанне.

Адмоўны прыклад заўважыў я на чыгунцы. У сваёй публікацыі „Хто адказае" („Ніва" н-р 6 ад 11 лютага 1996 г.) я ставіў пытанне, чаму ў некаторых цягніках чыгуначныя вагоннікі не забралі попельніц з вагонаў, хоць добра ведаюць, што ў цягніках на лініях да 200 км забараняецца курыць. Трэба прытым адзначыць, што ў гэтым выпадку, чыгуначныя „мудрацы" прыдумалі нешта іншае. Попельніц не забралі, а на дзвярных і вагонных шыбах паставілі значок забароны курэння.

І зноў падарожныя здагадваюцца: курыць, ці не?! Адны кажуць, што калі ёсць попельніца, значыцца, можна курыць. Іншыя, што абавязвае знак забароны. На маю думку, прыйшоў час скончыць гульню ў жмуркі.

Дзяржаўная чыгунка з'яўляецца даволі вядомым прадпрыемствам у краіне. Таму яе рэпутацыя ў народзе мае таксама значэнне. Калі ўжо ПКП не хоча ўключыцца да гурту тых, што намагаюцца зберагчы наша здароўе, няхай не перашкаджае іншым.

Варта аб гэтым памятаць, мае паважаныя калегі чыгуначнікі.

**Уладзімір Сідарук**

# ПОЗІРК У МІНУЛАЕ

**14 ліпеня**

1683 г. — туркі пад камандаваннем Кара Мустафы пачалі аблогу Вены.

1789 г. — штурм парыжан на Бастылію стаў пачаткам Французскай рэвалюцыі.

1918 г. — нар. Інгмар Бергман, шведскі рэжысёр.

1965 г. — амерыканскі зонд *Mariner 4* перадаў на Зямлю першыя здымкі Марса, выкананыя з адлегласці 9844 км.

**15 ліпеня**

1099 г. — падчас першага крыжовага паходу еўрапейскія рыцары здабылі Іерусалім.

1410 г. — бітва пад Грунвальдам, дзе войскі ВКЛ і Польшчы перамаглі рыцараў Тэўтонскага ордэна.

1606 г. — нар. Рэмбрант, нідэрландскі мастак.

1795 г. — „Марсельеза” аб’яўлена нацыянальным гімнам Францыі.

1876 г. — нар. Алаіза Пашкевіч, „Цётка”.

1975 г. — старт касмічных караблёў *Саюз* і *Apollo* да супольнага палёту.

**16 ліпеня**

1054 г. — папскі пасол кардынал Кандыба аб’явіў адлучэнне ад Рыма канстанцінопальскага патрыярха Керуларыя, што дало пачатак схізме.

1918 г. — у Екацерынбургу бальшавікі расстралялі сям’ю апошняга расейскага імператара Мікалая II.

1945 г. — першы выбух атамнай бомбы на палігоне Лос Аламас.

1969 г. — старт касмічнага карабля *Apollo 11* у напрамку Месяца.

1975 г. — злучэнне савецкага і амерыканскага касмічных караблёў.

**17 ліпеня**

1936 г. — путч правых іспанскіх нацыяналістаў пад камандаваннем генерала Франка стаў пачаткам грамадзянскай вайны ў Іспаніі.

1945 г. — пачатак канферэнцыі ў Патсдаме.

1955 г. — адкрыццё першага Дыснейленда ў Каліфорніі.

**18 ліпеня**

64 г. — пажар Рыма, які стаў асновай да праследавання хрысціян Неронам.

1918 г. — нар. Нэльсан Мандэла, паўднёваафрыканскі палітык.

1968 г. — заснаванне карпарацыі *Intel*, вядучай па выпуску мікраэлектронных схем.

1980 г. — у Індыі запушчана першы індыйскі спадарожнік Зямлі.

**19 ліпеня**

1374 г. — памёр Франчэска Петрарка, італьянскі паэт, народжаны 20 ліпеня 1304 г.

1834 г. — нар. Эдгар Дэга, французскі мастак.

1870 г. — аб’яўлена догма аб беспамылковасці папы.

1962 г. — у ЗША праведзена першае паспяховае выпрабаванне супрацьракетнай сістэмы.

**20 ліпеня**

1933 г. — Германія заключыла канкардат з Ватыканам.

1969 г. — а гадзіне 9.17 сярэднееўрапейскага часу першая касмічная машына *Eagle* з людзьмі на борце прызямлілася на Месяцы.

1976 г. — амерыканаскі зонд *Viking 1* прызямліўся на Марсе.

**(Ш)**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Прысніўся мне цікавы сон пра маю дачку. Быццам выступае яна на сцэне. Праўда, у дзяцінстве яна, як кожная амаль дзяўчынка, марыла, каб стаць артысткай, але цяпер працуе зусім у іншай прафесіі.

І так выступае яна (не ведаю, спявае ці танцуе, а мо бярэ ўдзел у нейкім спектаклі), а людзі, што сядзяць у зале, захапляюцца ёю.

Бачу, што асабліва хваліць яе і апладзіруе, крычыць: „брава!” нейкая прыгожая жанчына, брунетка, якая сядзіць у першым радзе. Валасы яе прыгожа зачэсаны, усе ўверх.

І раптам я заўважаю, што твар гэтай жанчыны змяняецца. Нос становіцца доўгі, і ўжо гэта ні то жаночы твар, ні то лісіная ці воўчая морда. А на гэтым твары — белая маска. Яна дакладна прылягае да твару, і выглядае гэта так, быццам бы на твары была гэта маска намалявана.

Астроне! Ты ўжо пісаў, што тэатр сніць кепска. Я думаю, што гэты сон не прадвяшчае ні мне, ні маёй дачцэ нічога добрага. А можа не ўсё будзе кепска?

**Анюта**

Анюта! Добра ты падумала. Тэатр абазначае нейкі фальш у адносінах да тваёй дачкі. Асабліва дрэннае абазначае для яе тая дама — лісіца ў масцы. Бачыш, надзела яна на сябе маску і прытварылася дружалюбнай і сардэчнай у адносінах да тваёй дачкі. Але няхай цябе не ашукае гэта лісіна-воўчая мордка з маскай на твары. Не вер яе словам і сцеражыся яе. І дачка няхай не верыць прыгожым слоўцам свайго ворага.

**Астрон**

# Зважылі соль

Дарэк быў адзіным дзіцём у Галіны і Толіка. Вучыцца не вельмі хацеў. Бацькі сказалі: „Калі так, будзеш сядзець на зямлі, як і мы.” Пасля пачатковай школы пайшоў у сельскагаспадарчую, ды ледзьве яе адолеў на тройках.

Узялі Дарка ў армію. Пасля службы назаўсёды вярнуўся ў сваю вёску. Як усе хлопцы ў сяле, днём рабіў у гаспадарцы, вечарамі сустракаўся з сябрамі, каб пайграць у кампаніі ў карты ды віпіць гарэлкі ці піва.

На адной забаве пазнаёміўся з Міркай з суседняй вёскі. Дзяўчына пасля заканчэння прафесіянальнай школы ў горадзе не магла там знайсці сабе працы. Вярнулася да бацькоў. Маладыя спадабаліся адно аднаму. Хлопец пачаў ездзіць да дзяўчыны штотыдзень, або і часцей. Павяліся размовы аб вяселлі.

Рашылі, што пасля шлюбу будуць жыць у Даркавых бацькоў — прыгожы дом, ладная гаспадарка, ён — адзін сын, і так усё будзе для яго. Дванаццаць гектараў можа пракарміць сям’ю. У Мірчыных бацькоў было яшчэ трое меншых, яшчэ ў пачатковай школе...

Сябры пачалі пасмейвацца з Дарка. Усё гаварылі, што лезе бабе пад абцас.

Аднойчы сабраліся ўсе кавалеры і старэйшыя. Рашылі, што кожны дасць на паўлітра ды прынясе з дому закусь: „няхай Дарэк, яшчэ не спутаны, хоць як чалавек пап’е сабе ўволю! Сабраліся ў прасторным доме Колі, пяцідзесяцігадовага бабыля — ніхто не будзе перашкаджаць у выпіўцы.

Пілі, елі, спявалі. Усе гаварылі, што з бабамі толькі клопат. Не паспееш да яе дакрануцца, а ёй ужо жывот расце. Як паявяцца дзеці, то ў хаце толькі віск і балаган, дый годзе. А яна мужыка толькі дома трымала б! Якое гэта жыццё, так ці не?..

— Не, хлопцы, я так не думаю. Я кахаю Мірку, — бунтаваўся Дарэк. — Перастаньце такое балбатаць.

— Памятаеш, — тўкануў яго Андрэй, — як мы на фізкультуры ў школе „важылі соль”? Давай, зважым цяпер. Пабачым, хто мацнейшы з нас. Адолееш мяне, справішся і з бабай.

Выйшлі на кухню. Як падняў Андрэй Дарка на сваёй спіне, дык абое і бабахнулі на падлогу. Андрэй устаў, а Дарэк ляжыць, не варухнецца. Ніяк не змаглі п’яныя сябры яго паставіць на ногі. Прыйшлося званіць па скорую дапамогу.

Лекар сцвердзіў, што штосьці зрабілася з Даркавым пазваночнікам. У бальніцы ўдакладнілі, што жыццяя маладому кавалеру не ўдасца ўратаваць. Праз месяц Дарэк памёр. Так вось праз дзіцячую гульню дарослых у вёсцы замест вяселля было яшчэ адно пахаванне.

**Аўрора**

**Гарызантальна:** 2. збянтэжанасць, 4. сямейнае найменне, 6. балота, 7. канторскі служачы на Захадзе, 9. возера ў Турцыі, 11. рэчыва, сыравіна, 12. збудаванне для коннаспартыўных спаборніцтваў, 13. памяшканне для мнагалюдных сходаў, 15. стваральнік кнігі, 17. пагардліва пра хлопца, 18. хвароба карэньчыкаў спіннамазгавых нерваў, 19. апавядальны літаратурны твор.

**Вертыкальна:** 1. норма паводзін, 2. процілегласць падлозе, 3. мех, 4. намеснік рэктара, 5. запаленне апендыкса, 6. сталіца Галандыі, 8. цыркавы артыст-комік, 9. лісцевае дрэва, 10. магутная афрыканская рака, 14. пустыня ў Чылі, 16. радыёлакатар, 17. няволя ў пераможцы. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, разыграем кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 21 н-ра:**

**Гарызантальна:** абед, Ігнат, рэфрэн, айва, засаб, мінута, расамаха, купал, кірыліца, алігатар, лямка, кілаграм, барана, Гаіці, гаць, Тырана, акула, сцяг.

**Вертыкальна:** Ігуасу, кашара, байдарка, драма, Афіна, рэнта, балдахін, іхтыёлаг, квас, псіх, Сіям, лаза, ірыгацыя, Ямайка, кіцель, барыш, карат, Лагас.

Кніжныя ўзнагароды высылаем: **Аляксандру Дабчынскаму** і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

# ПАРНАСІК

## Селянін

Селянін —
Вёскі сямянін.
Цяжка працуе,
Часам зазлуе.
Розна бывае:
Кагось праслаўляе;
Абы не ад злосці,
Бо ломяцца косці.
Селянін — гэта павага,
А быць ім — адна адвага!
Гэтай пасады баяцца —
Няма што злавацца.
Гарадскі хлеб лягчэйшы,
Мо ён смачнейшы.
Селянін усіх карміцель
І прымірыцель.
Вайны ён ніколі не распачне,
Хто іншы яе пачне.
Яму чужыя забастоўкі
І не б’ецца за дзяржаўныя столкі;
Яму хопіць табурэткі.
У горадзе ён госць рэдкі,
Дзе жулікі могуць яго абакрасць —
Нюхам пазнаюць мужыцкую масць.
Селяніна павінны ўсе шанаваць,
Чэсць, пашану даваць.
Ён гэтага варт!
Гэта праўда, не жарт.
Селяніну цяжка жывецца,
Хаця ўжо сярпом не жнецца.
Машына жыццё аблягчае,
Аднак мужыку работы хапае
Амаль на цэлы год.
Мае шмат прыгод:
Летам спіць як заяц пад мяжою,
Што не распранаецца парою.
Селяніна ўсе павінны шанаваць
І пра яго вельмі дбаць.
А калі пенсію мае
Пра сябе ён не дбае.
Бо гэта селянін-мужык —
Да бяды прывык.
Не мае адзначаных гадзін работы.
Не чужы яму і дух свабоды.
Ён герой і роднага слова
І найлепшая селяніна прамова:
Яна, без філасофіі і дурніцы,
Гучыць, бы з пачэснай званіцы.
Да цяжкай работы пазван,
Важнейшы і лепшы як пан.
Даць яму да жыцця перспектывы,
Варт гэтага — ён не лянівы.

**Мікалай Панфілюк**

## Ґывае так

Бывае, што пакрыўджаную
блудніцай завуць.
Бывае, што не моляць Бога,
а клянуць, гарэлку п’юць.
Бывае, што слугі едуць, а паны ідуць.
Бывае — льюцца сірот слёзы,
ды дарма не мінуць,
Упадуць на камень і камень
разаб’юць.

**Мар’я Пень**




Ніва

„Niwa”
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 421-033.
Druk: „ORTHDRUK”, Białystok, ul. Składowa 9.
**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1996 r. upływa 5 września 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,45 zł (14 500 starych zł), a kwartalnie — 18,85 zł (188 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-2700-1-08.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

## Эпіграмы з антыподаў

### Летапісец

Летапісец ён цікавы.
На падмогу прызваў бацьку —
мудраца-падляшука.
У аповедах змястоўных
не было б чаго чытаць,
каб не бацькавы размовы,
што гаворкаю сваёю
ён расказвае да рэчы —
доўга жыў на гэтым свеце,
многа зведаў той старэча.
Канца байкам не відно,
усё ён піша unrem et idem
(адно й тое — усё адно).
Стары бацька патрыёта
з беларускіх самародкаў,
не такі, як ёсць, выродкі,
улюбёны у Радзіму,
моцна верыць сваёй веры.
Я ахвотна ў тое веру,
што ён кажа свайму сыну
пра каханне да Айчыны.

**Сымон Шаўцоў**
**Аўтралія**

## Манька

Манька — дзеўка маладая,
Да работы „баявая".
Як рана выходзіць з хаты,
Тады мужык вінаваты,
Бо не дагледзеў бульбу,
Што ў каструлі прыгарэла.
Ну і пачаўся тады шум,
Каб на іх халера.
Жонцы не было калі
Кухню даглядаць,
Многа часу заняло
З суседкай пляткаваць.
А вярнуўшыся дамоў,
Учыніла гора.
Муж плюнуў на гэта ўсё,
Пайшоў да Хвядоры.
Лапатухай Маньку тую
Ўсе ў вёсцы залі.
І быццам якое гора
Здалёк абміналі.
Лепей з Манькай не спаткацца,
Людзі гэта знаюць,
Калі яна ў хату ідзе,
Хутчэй дзверы зачыняюць.

**Мікалай Лук'янюк**



*Мал. Алега ПАПОВА*

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Спрачаюцца тры хлопцы:

— Мой дзядзька — біскуп, — гаворыць адзін. — Усе звяртаюцца да яго: Ваша праасвяшчэнства.

— А мой дзядзька — кардынал і звяртаюцца да яго: Ваша свяцішэльства! — гаворыць другі.

— Мой дзядзька важыць 200 кілаграмаў і людзі, якія яго пабачаць, шэпчуць: Мой Божа!

* * *

Сужонства выбіраецца ў водпуск на мора:

— Навошта бярэш гэту чорную сукенку? — пытае муж.

— Ну, ведаеш, каханы, можа прыгадзіцца, ты ж зусім не ўмееш плаваць.

* * *

— Напамінаеш мне самалёт, — гаворыць жонка мужу.

— Такі я дынамічны?

— Не, няма з цябе ніякай карысці на зямлі.

* * *

— Татка, калі я буду мог рабіць тое, на што буду мець ахвоту? — пытае бацьку васьмігадовы сынок.

— Не ведаю. Ніводзін мужчына яшчэ так доўга не жыў.

* * *

— Я карыстаюся поспехам у жанчын: лаўлю іх адну за другою, як рыбы.

— Не забудзь, што маеш толькі адну вудачку.

* * *

— Чаму наш сусед назваў свайго сына Гамлетам? Мо з'яўляецца ён любіцелем Шэкспіра?

— Яго сын, ці не яго? — вось пытанне!

* * *

У сям'і Кавальскіх вялікая радасць: нарадзіўся першы сынок. Шчаслівая маці запрасіла на хрысціны знаёмую варожку, якая аб'явіла, што дзіця мае магічную моц: каго назаве, той памрэ. Усе сталі абыходзіць яго здалёк. Аднойчы аднак хлопчык крыкнуў:

— Баба!

І сталася так, што ў той жа момант бабуля ўпала на падлогу мёртвая. Праз нейкі час хлопчык зноў крыкнуў:

— Дзедка!

У гэты момант дзедка сышоў са свету. Усіх апанаваў страх: хто наступны... Праз два дні хлопчык крыкнуў:

— Татка!

Кавальскі пабляднеў, схапіўся за сэрца, але чуе лямант за сцяною. Гэта сусед памёр.

## Дзеля хохмы

Тэлефон. Што такое тэлефон? Здавалася б, так сабе — пластмасавая чарапашка. Трубка. Дроцікі. А ён жыццё здатны перавярнуць.

Знімаю трубку. Трэба перагаварыць.

А там ужо гавораць. Хтосьці з кімсьці.

Мужчынскі голас:

— Ну, медыцына зараз на вышыні! Вось мужчыну перасадзілі сэрца бабуіна...

Жаночы:

— А што, бабнікі зараз такая рэдкасць, што трэба іх размнажаць ажно перасадкамі сэрца?

Ён:

— Бабуін — гэта не бабнік. Гэта малпа...

Адчуваю, што яны зацягнуць надоўга. Умешваюся:

— Магчыма, той бабуін сярод малпаў быў дон-жуанам.

— А хто гэта? — здзівілася яна.

— Дух святы, — адказваю, — у асобе і падабенстве ўласніка тэлефона.

— Як вам не сорамна падслухоўваць чужыя размовы?

— Чым больш мне будзе сорамна, тым далей вы будзеце займаць мой тэлефон.

Тады ўмяшаўся ён і выгукнуў.

— Крэтын!

— Вельмі прыемна! — кажу. — А мяне завуць Антон.

**Яўген Дудар**

## Пашкадавала

Бабка Маруся выйшла на ганак. Быў позні вечар. З неба ліло, як з вядра. Да таго ж халодны вецер. Старая падзівілася, што робіцца наўсцяж, і сама сабе ўголас сказала:

— І як у такое надвор'е зладзеі крадуць, бедненькія? Халаднеча ж. Золь. Цемра. Ай-яй-яй, гаротнічкі, і пашкадаваць вас няма каму.

І тут з цемры да старой рушыла даволі ладная постаць у вайсковай плашч-накідцы.

— Не бойся мяне, бабуля, — сказала постаць басам. — Мы ўжо вывелі тваю карову з хлява, але забіраць не будзем. Ты пашкадавала нас, а мы цябе. Дзякуй, цётка, што хоць адна ты такая знайшлася. Забірай, забірай карову. Хай пад дажджом не мокне...

Цётка Маруся, як стаяла, так і грымнулася вобзем.

**Васіль Ткачоў**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Сэрцайка! У мяне ёсць брат. Калі ён нарадзіўся, мне было ўжо 12 гадоў. У сям'і быў вялікі перапалох: брат нарадзіўся з заячай губой і наогул цэлы год хварэў, амаль мы яго не забіралі з бальніцы.

Калі падрос, яму зрабілі аперацыю і знешне ён нічым не адрозніваўся ад аднагодкаў, але ўсё роўна застаўся кволым і хваравітым. Аднак добра вучыўся ў школе і нават атрымаў вышэйшую адукацыю. Пасля ажаніўся з прыгожай дзяўчынай.

Усё жыццё мы ўсе стаялі над братам, як над нейкім крышталем, каб хаця яму нічога не сталася: і маці, і бацька, і я. Ну, і выхавалі!

З жонкай адразу нешта не ладзілася. Мы вырашылі, што вінаваты ва ўсім гэтым яго эгаістычны характар. Жонка яго гаварыла нам зусім іншае. Наракала, што сексуальныя справы ў іх не ладзяцца, а гэта было горш, чым яго капрызны характар.

Нарадзілася ў іх дачушка. Мама адразу пайшла на ранейшую пенсію, каб хаця неяк аблегчыць ім жыццё, даглядаючы дзіця. Я ўжо жыла асобна, бо выйшла замуж, а яны — з маімі бацькамі, якія кармілі іх і паілі, абы ўсё было ціха.

А ўсё ж такі не клеілася ў іх. Мы пачалі непакоіцца, калі братавая пачала позна вяртацца з працы, хаця канчала роўна а трэцяй. Брат вельмі перажываў, але нічога нам не гаварыў пра іх адносіны. А мы баяліся зачапіць яго. Усе маўчалі, каб хаця нічога не сапсаваць. Нам здавалася, што ва ўсім вінаваты мой брат, дык што тут было гаварыць!

У адзін прыгожы дзень братавая паведаміла нам, што выязджае. З працы ўжо звольнілася. А што з дзіцём? Ну, бадай, дзіця застаецца пад добрай апекай!

Так, дзіця засталося ў надзейных руках. Дагэтуль нам здавалася, што жонка майго брата вельмі добры чалавек. Мы спагадалі ёй, быццам перапрашаючы за нервовага брата, ва ўсіх іх непаразуменнях абвінавачваючы толькі яго. І толькі тады, калі яна так спакойна кінула сваё дзіця, мы глянулі на яе інакш.

А братавая выехала не адна. Развялася з маім братам і выйшла замуж за таго другога. Ужо ў даволі сталым узросце яна нарадзіла другое дзіця — сына. Сын быў недаразвіты. Цяпер яму шэсць гадоў, але яны з ім толькі мучацца. Хлопчык прыгожанькі, але мае вельмі вялікія адхіленні ў псіхіцы.

І вось, уяві сабе, Сэрцайка, цяпер братавая ўспомніла, што ў яе ёсць яшчэ дачка, ды прыехала ўсёй сям'ёй да яе ў госці. А дачку мы супольна выхавалі (брат не ажаніўся больш, ён бы гатоў быў кінуць-рынуць усё, каб толькі яна паклікала яго). І вось цяпер, калі мае бацькі купілі вялікую кватэру сваёй унучцы—паўсірацe, з'явілася яе мама. Прыехала адпачыць, з хворым дзіцём, з другім мужам.

Мы ад яе такога ўжо нахабства не чакалі. Проста аслупянелі і не ведаем, што рабіць. Вядома, мая любімая пляменніца (сваіх дзяцей у мяне няма) прыняла маці як мага лепш. Гэта ж маці, па якой яна выплакала столькі слёз, а тая яе не хацела. Маці, па якой сумавала, калі бачыла, як іншыя дзеці ходзяць са сваімі мамамі за ручку. А яе мама жыла — і не жыла для яе! Усё сваёй маці даравала, тулілася да яе, плакала.

Мая мама сказала, што гэта Бог пакараў братціху за тое, што кінула, як зязюля, сваё дзіця. А я не ведаю, як аднесціся да яе. Мне і яе крыху шкада, што напаткала яе такое няшчасце.

**Вера**

Вера! Ты павінна аднесціся да братціхі спакойна, хаця я разумею, што яна зрабіла твайму брату і пляменніцы. Ты свой доўг выканала, апякуючыся разам з бацькамі кінутым дзіцём, усё ўжо прайшло, а цяпер гэта дарослая дзяўчына, якая сама кіруе сваім лёсам. І ты мусіш прыстасавацца да гэтага.

**Сэрцайка**